


# Беларус

**75-ГОДЗЬДЗЕ!**
Менск, 25 сакавіка 1918 г.
**«Ад гэтага часу Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчаецца незалежнаю і вольнаю дзяржавай».**
**Рада БНР**

**№ 407 Лістапад 1993**
Год выд. 42

**BIELARUS** / Belarusan Newspaper in the Free World. Published by the Belarusan American Ass'n, Inc.
Address: P. O. Box 178, Jamaica, N.Y. 11432, U.S.A. Price $2.50


## ЦІ ВЫХАВАЕМ ПАТРЫЁТАЎ?

Аціхлі стрэлы ў залітай крывёю Маскве, пахаваны забітыя ў крывавай бойні. Дзякаваць Богу, яшчэ аднаго кастрычніцкага перавароту на гэты раз не атрымалася.

З апакаліптычных тэлевізійных перадач тых дзён мяне ўдарыў у самае сэрца наступны фрагмэнт. Перад тэлекамэрай прызнаецца ў сваёй віне маладзенькі «баявік». Пакамечаная вопратка, узлахмачаны чуб, вочы разгублена бегаюць. Па ўсім відаць — не масквіч, у кампанію бандытаў папаў выпадкова: «Пообещали денег на дорогу... Уговорили... Теперь так не поступил бы...» Псыхалёгія нацы, якая захлынаецца ад свайго-ж шматвекавога імпэрыялістычнага шалу? А якая псыхалёгія адрачэнцаў, якіх таксама шмат на Беларусі?

З трывогай думаю пра нашых дзетак і моладзь. Ці стануць усе яны сьведамымі грамадзянамі незалежнай Айчыны? Пераважная большасьць беларускіх дзяцей вырастае ў расейскамоўнай стыхіі. «Общепонятный» запаланіў сям'ю, сяброў, вуліцу, крамы, транспарт, спорт, кіно, тэлевізію, школу, кнігі. Урадаўцы ад асьветы ганарацца, што ў Менску ажно 121 «беларуская» школа. Але-ж і тут беларуская «мова» — толькі на ўроках. Чаму? На Беларусі шмат настаўнікаў-энтузіястаў Адраджэньня. Але-ж ня менш і тых, хто гаворыць па-беларуску толькі на ўроках. Пасьля званка з тымі самымі дзецьмі гаворка ўжо вядзецца на «общепонятном». Ну, а настаўнікі матэматыкі, хіміі, замежных моў і г.д. нават адмаўляюцца выкладаць свой прадмет па-беларуску. Нічога не дае і так званая «перападрыхтоўка».

Афіцыйна лічыцца, што ў школах Рэспублікі Беларусь (РБ) дзейнічае канцэпцыя нацыянальнага навучаньня і ўзгадоўваньня. Але-ж беларускі ўрадавец так можа пералапаціць якую хочаш канцэпцыю, што ніхто яе не пазнае. Памятаецца, у Караткевіча: Беларусам даў Бог самае горшае ў сьвеце начальства... Дык вось яшчэ з брэжнеўскіх часоў у нас у школах падручнікі купляюць і раздаюць вучням за кошт дзяржавы. І кожны такі падручнік павінен адслужыць ня менш чатырох гадоў. Кіруючыся гэтым «правілам», у Міністэрстве адукацыі РБ склалі вельмі цікавы дакумэнт — «Пералік падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў, прыгодных для выкарыстаньня ў школьных бібліятэчных фондах у 1993/94 навучальным годзе». Згодна з гэтым дакумэнтам, да «прыгодных» аднесены падручнікі, якія выдаваліся з 1986 па 1993 год. Што азначае першая дата, разумее кожны: пачатак знакамітай перабудовы «квітнеючага» СССР. Вось і набываюць веды вучні той самай клясы па тым самым прадмеце на розным матэрыяле і з розных пазыцый. Канкрэтны прыклад. Вучні IV клясы школ зь беларускай мовай навучаньня маюць чытанку «Роднае слова» Э. Агняцьвет і Я. Івашуціч. Але ў адных школах (тут дзеткам сапраўды пашанцавала) — 1993 год выданьня, а ў астатніх — 1989 і 1991 гадоў. Першыя сярод іншых цікавых твораў будуць вучыць напамяць вершы «Ты мой брат» Алеся Гаруна, «Пагоня» Артура Вольскага, «Скарбы» Канстанцыі Буйло, чытаць апавяданьні пра Еўфрасіньню Полацкую, князёўну Рагнеду, Міколу Гусоўскага, даведаюцца пра беларускія абрады «Багач», «Дзяды», «Каляды», «Купальле». Другія-ж пра ўсё гэта змогуць толькі пачуць ад настаўніка, бо ў ранейшых выданьнях чытанкі такія творы зьмясьціць было нельга. Затое гэтыя дзеткі змогуць прачытаць ажно 14 твораў пра «Сьвятло Кастрычніка» і 6 пра «Дарагога Ільіча». Праграма гэтага не вымагае, але-ж вучням вочы не зашыеш.

*(Працяг на 2-й ст.)*

## ЗЬЕЗД ЗГУРТАВАНЬНЯ БЕЛАРУСАЎ У ВЯЛІКАБРЫТАНІІ

16 кастрычніка ў канфэрэнцзалі Беларускае Бібліятэкі імя Ф. Скарыны ў Лёндане адбыўся 47-мы агульны гадавы зьезд ЗБВБ. Адкрываючы яго, старшыня Згуртаваньня сп. Янка Міхалюк папрасіў а. Аляксандра Надсана сказаць малітву, пасьля чаго была ўшанаваная памяць а. Янкі Пякарскага.

У прэзыдыюм зьезду былі выбраныя сп. М. Швэдзюк (старшыня), др. І. Гурло і А. Здановіч (сакратары). Др. Гурло прачытала пратакол папярэдняга зьезду, а сп. Я. Міхалюк зрабіў справаздачу з праробленае працы, выбачаючыся пры гэтым, што з прычыны ягонае хваробы давялося зьезд адкласьці аж на пяць месяцаў. Сп. Міхалюк вельмі дзякаваў тым, хто наведваў яго ў шпіталі.

Спсп. Я. Ясьвіловіч і М. Швэдзюк паінфармавалі прысутных аб Першым зьезьдзе беларусаў сьвету.

Сп. П. Асіповіч прадставіў пісьмовы рапарт пра дапамаговую дзейнасьць ЗБВБ і сказаў, што стан касы даволі здаровы. Толькі на дапамогу беларускім курсантам Лёнданскага ўнівэрсытэту было выдана пяць тысяч фунтаў. Сп. Міхалюк падзякаваў праф. Джэймсу Дынглі за ўдалы падбор курсантаў у Менску на Лёнданскі ў-т.

У новую галоўную ўправу былі абраныя: Я. Міхалюк — старшыня, М. Дзейка і А. Здановіч — заступнікі старшыні, др. І Гурло — сакратар, П. Асіповіч — скарбнік, Я. Ясьвіловіч — сябра ўправы.

У наглядную раду ўвайшлі: В. Мартынчык (мастак), М. Сенька і Э. Бжэзінскі.

Зьезд закончыўся пачастункам, падтрыхтаваным сп-няй Л. Міхалюк.

**А. Здановіч**

### ВІНШУЕМ КАНАДЗКІХ БЕЛАРУСАЎ!

У лістападзе 1948 году ў Таронта была заснавана першая беларуская арганізацыя — Згуртаваньне Беларусаў Канады (ЗБК). ЗБК і Беларускае Нацыянальнае Аб'еднаньне (БНА) далі пачатак Каардынацыйнаму Камітэту Беларусаў Канады.

З нагоды 45-годзьдзя ЗБК віншуем сяброў Згуртаваньня і жадаем далейшых удачаў усім беларускім арганізацыям у Канадзе, якія плённа працуюць на славу Беларусі.

**Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне**
**Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва**
**Рэдкалегія газэты «Беларус»**

## МІНІСТАР П. КРАЎЧАНКА Ў ЛЁНДАНЕ

Міністар замежных спраў РБ Пётр Краўчанка прыбыў з афіцыйным візытам у Лёндан самалётам зь Нью-Ёрку 11 кастрычніка. На аэрапорце яго сустрэў прадстаўнік брытанскага ўраду сэр Дэрэк Додсан.

Увечары таго-ж дня, у суправаджэньні прадстаўнікоў брытанскага і беларускага ўрадаў, сп. Краўчанка з жонкай Галінай наведалі Беларускую Бібліятэку імя Ф. Скарыны. Прыбыў сюды і консуль РБ з жонкай і дачушкай сп. А. Якавіцкі.

Гэтая падзея не магла не хваляваць беларускае грамадзтва Лёндану, якое шчыра вітала гасьцей. Хоць шмат чаго застаецца да пажаданьня ад сёньняшняга ўраду Беларусі, у гэты дзень настрой у людзей быў сьвяточны.

Па аглядзе бібліятэкі адбылася ў канфэрэнцзалі сустрэча беларускага грамадзтва са сп. Краўчанкам, якога вітаў сп. Янка Міхалюк, старшыня Згуртаваньня Беларусаў у Вялікабрытаніі. Сп. Краўчанка перадаў прывітаньні ад беларусаў Амэрыкі, упасобку ад сп-тва Бартулёў, калішніх лёнданцаў. Скарынінскаму цэнтру сп. Краўчанка перадаў кніжку др. Я. Запрудніка «Беларусь на гістарычным скрыжаваньні» і падарыў вазу зь беларускага шкла — рэпрадукцыю з калекцыі Радзівілаў.

Ад імя дырэктара Бібліятэкі а. Ал. Надсана (які быў выехаўшы ў Беларусь) і ад бібліятэчнага камітэту вітаў міністра праф. Джэймс Дынглі, а ад імя манчэстэрскага прыходу БАПЦ — а. Янка Абабурка.

На вечары быў брытанскі пасол у РБ. сп. Джон Эвэрард.

Сп. Краўчанка паінфармаваў аўдыторыю аб сваіх паездках на розныя сустрэчы і сказаў, што ён заўсёды цікавіўся творамі Скарыны і змог адшукаць іх у розных кутках сьвету.

Гаворачы пра міністэрства замежных спраў РБ, ён сказаў, што ў ім цяпер працуе 200 чалавек і ўсе яны ў веку да 30 год.

Інтэграцыя Беларусі ў Эўропу, сказаў міністар, сёньня немагчымая ў сувязі са станам эканомікі як беларускае, гэтак і эўрапейскае.

Сп. Краўчанка гаварыў таксама пра патрэбу абароны беларусаў Беласточчыны, на якіх вядзецца польскі наступ у атмасфэры варожасьці да ідэі незалежнасьці Беларусі, а таксам пра фінансы, якія польская эміграцыя накіроўвае цяпер у Горадзеншчыну.

Сп. Краўчанка расказаў пра разьвіцьцё беларускасьці ў школах рэспублікі, пра выдавецкую справу, пра рытаваньне новае нацыянальнае беларускае энцыкляпэдыі.

Прапанаванае ў Вярхоўным Савеце двумоўе, сказаў міністар, ня пройдзе, пытаньне зьнята з парадку дня.

Зь іншых тэмаў сп. Краўчанка даволі шырока гаварыў пра незалежнасьць, нэўтралітэт, ядзерную зброю, стан эканомікі. Выступленьне міністра трывала больш за паўтары гадзіны, пасьля чаго з паўгадзіны ён адказваў на пытаньні.

«Жыве і будзе жыць сьвятая Беларусь» — гэткімі словамі закончыў сваю прамову высокі госьць.

Др. Ірына Гурло, сакратар ЗБВБ, уручыла сп-тву Краўчанкам сувэнірныя падарункі.

Сустрэча закончылася прыняцьцём, якое прайшло вельмі ўдала, з музыкай і танцамі, у часе якіх найлепшай танцорай была трохгадовая Джана, дачушка сп-тва Якавіцкіх.

**А. Здановіч**

### БЕЛАРУСКА-БРЫТАНСКАЯ ДЭКЛЯРАЦЫЯ

Чатырохдзённы візыт Міністра замежных спраў Пятра Краўчанкі ў Лёндан завяршыўся падпісаньнем супольнае дэклярацыі аб далейшым палітычным, эканамічным і культурным супрацоўніцтве. Сфармуляваныя ўжо і хутка будуць падпісаныя дакумэнты аб урэгуляваньні падатковых пытаньняў, а таксама аб самалётнай лініі паміж дзьвюма краінамі. Паводле сп. Краўчанкі, брытанскія прадпрымальнікі зацікавіліся інвэстыцыямі ў Беларусі.

Між іншага, беларускі міністар сказаў свайму брытанскаму адпаведніку, Даглясу Гэрду, што Беларусь «поўнасьцяй падтрымвае расейскага Прэзыдэнта Барыса Ельцына» (FBIS, 14.X і 3.X)

### ПРАДУКТЫ ПА КАРТАЧКАХ

Менскі гарадзкі савет пастанавіў, што з пачаткам студзеня 1994 году «нармiраваныя прадуктовыя тавары будуць прадавацца па спэцыяльных картачках».

**BIELARUS**
Belarusan Newspaper in the Free World
Published monthly by
BELARUSAN AMERICAN ASSOCIATION, INC.
**Subscription $ 25 yearly**
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
*Выходзіць месячна* *Рэдагуе Калегія*
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
*Падпіска зь перасылкаю 25 дал. на год.*
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць погляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

## ЦІ ВЫХАВАЕМ ПАТРЫЁТАЎ?

*(Заканчэньне зь 1-й ст.)*

Для вучняў VIII і IX клясаў «Пералік» прапануе па два падручнікі гісторыі Беларусі Э. Загарульскага (8-9, 1992, 1993 гг.), М. Біча (8, 1993 г.), В. Фаміна (9, 1993 г.).

Кнігі М. Біча і В. Фаміна з тых 22 падручнікаў гісторыі і геаграфіі Беларусі і сусьвету, якія выдалі ў гэтым годзе беларускія навукоўцы. Падзеі і факты тут падаюцца зь дзяржаўных пазыцый Рэспублікі Беларусь. Наклады гэтых падручнікаў дастатковыя, каб забясьпечыць усіх вучняў VIII і IX клясаў. Навошта-ж было ўспамінаць у «Пераліку» і вялікадзяржаўніцкі падручнік Э. Загарульскага, які сьцьвярджае: «У IX стагодзьдзі ва ўсходніх славян узьнікла першая ў іх гісторыі раньнефэадальная дзяржава Старажытная (Кіеўская) Русь... Яны сталі гаварыць на адной (?) старажытнарускай мове, усьведамлялі сябе як адзін народ з агульнай радзімай, агульнай мовай, агульнай гісторыяй і агульным лёсам» (бб. 25, 26). Полацкае і Тураўскае княствы аўтар называе «заходне-рускімі землямі». І далей: «Вызваленчая вайна (маюцца на ўвазе паўстаньні 1648 і 1653 гг. — Р. Р.-А.) паказала, што беларускі і ўкраінскі народы без дапамогі брацкага рускага народу ня змогуць пазбавіцца ад улады магнатаў, шляхты і каталіцкай царквы» (б. 103).

Або — пра падзел Рэчы Паспалітай: «Узьяднаньне Беларусі з Расіяй было абумоўлена ўсім ходам гістарычнага разьвіцьця беларускага народу. Яно адпавядала яго кроўным інтарэсам, яго спрадвечнаму імкненьню ўзьяднацца з родным па паходжаньню, мове, культуры рускім народам» (б. 132).

І такая вялікадзяржаўніцкая фальсыфікацыя па ўсім падручніку Э. Загарульскага. Калі ўлічыць, што большасьць настаўнікаў гісторыі старшага пакаленьня прывучана да марксыцкавялікадзяржаўніцкіх догмаў, што гісторыя Расеі і СССР вывучаецца ў VIII-XI клясах па падручніках, выдадзеных у Маскве і толькі перакладзеных на беларускую мову ў Менску, можна дакладна ўявіць, якое «нацыянальнае» ўзгадаваньне маем на ўроках гісторыі ў старэйшых клясах школаў РБ.

Для фармаваньня нацыянальнай сьведамасьці моладзі неабходнае выхаваньне духоўнасьці праз эмацыянальнае ўспрыняцьце багацьця культурнай спадчыны народу, яго літаратуры і мастацтва. Аднак на сёньняшні дзень выкладаньне беларускай літаратуры ў школе, асабліва ў старэйшых клясах, празьмерна сацыялягізавана. Абмежаваныя веды вучняў пра старажытную беларускую літаратуру. Няма ў школе сапраўдных Купалы, Цёткі, Гаруна. Міжваенная і сучасная беларуская літаратура вывучаецца па падручніках, якія былі складзены ў сярэдзіне 70-х гадоў, а цяпер крыху падпраўленыя.

Між тым, часопіс «Роднае слова» яшчэ з чэрвеня мінулага году публікуе вельмі цікавую альтэрнатыўную праграму-праспэкт па беларускай літаратуры для IX-XI клясаў, якую склалі вядучыя супрацоўнікі Акадэміі Навук Беларусі. Чаму-б на яе падставе нашым навукоўцам ня скласьці і падручнікі для школы? Падручнікі навукова аб'ектыўныя, цікавыя, якія абудзілі-б у вучняў любоў і павагу да літаратуры і яе творцаў, выхоўвалі-б беларусаў-патрыётаў?

Хацелася-б распавесьці яшчэ і пра тое, як цяперашнія школьныя праграмы эстэтычнага цыклю хаваюць ад нашых вучняў багатую культурную спадчыну беларускага народу, як адлучаюць нашых дзетак ад роднай мовы маскоўскія падручнікі тыпу «Английский язык», «Немецкий язык», бо сваіх падручнікаў па замежных мовах ня маем...

Але пра гэта — іншым разам.

**Рагнеда Грышкевіч-Аляхновіч**

## ПАЧАТАК МУЗЭЮ «БЕЛАРУСЫ Ў СЬВЕЦЕ»

У канцы верасьня ў памяшканьне былога Інбелкульту (вул. Рэвалюцыйная, б. Койданаўская, 15) канчаткова пераехаў Нацыянальны Навукова-Асьветны Цэнтр імя Ф. Скарыны. Там-жа, у самым вялікім пакоі, сьцены якога памятаюць Максіма Гарэцкага і Ўсевалада Ігнатоўскага, Якуба Коласа і Янку Купалу, дзейнічае музэйная выстава «Беларусы ў сьвеце», урачыста адкрытая ў часе І-га зьезду беларусаў сьвету. Памятныя рэчы, кнігі, пэрыядычныя выданьні, фатаграфіі, рукапісы, архіўныя дакумэнты перадалі сюды Алесь Алехнік з Аўстраліі, Ігар Казак і Вітаўт Кіпель з ЗША, Барыс Кіт з Германіі, Аляксандр Надсан зь Вялікабрытаніі і інш. Свае палотны ахвяравалі мастакі Валерый Дзевіскіба, Мікола Купава, Вячка Целеш, Кастусь Харашэвіч. Многа цікавых матэрыялаў пра Міхала Забэйду-Суміцкага, Пятра Міравовіча, беларусаў у даваеннай Латвіі перадаў паэт Сяргей Панізьнік.

Аднак мы разумеем, што зроблены толькі пачатак. Разам з «Бацькаўшчынай», Міжнароднай Асацыяцыяй Беларусістаў будзем пашыраць экспазыцыю, рабіць новыя стэнды, прысьвечаныя дзеячам беларускай эміграцыі, нашым землякам, якія працавалі і працуюць у іншых краінах. Таму зьвяртаемся да ўсіх прадстаўнікоў беларускай дыяспары, хто мае адпаведныя матэрыялы: давайце пакінем для будучых пакаленьняў памяць пра нашы паўсядзённыя справы, створым музэй «Беларусы ў сьвеце».

Наш адрас: Беларусь, 220050. Мінск-50, вул. Рэвалюцыйная (Койданаўская), 15. Цэнтр імя Ф. Скарыны.

**Адам Мальдзіс,**
**дырэктар Цэнтру,**
**прэзыдэнт МАБ.**

## БЕЛАРУСЬ, НАТО І РАСЕЯ

Дзяржаўны Сакратар ЗША Ўорэн Крыстафэр у часе візыту ў Менску 26 кастрычніка сёлета, як перадало Менскае радыё, «пазытыўна ацаніў дэмакратызацыю нашага грамадзтва» і сказаў, што «дачыненьні паміж Злучанымі Штатамі і Беларусьсю дынамічна разьвіваюцца».

Паводле расейскай тэлевізійнай станцыі Астанкіна, «Ўорэн Крыстафэр азнаёміў беларускіх лідэраў з заяваю амэрыканскага Прэзыдэнта Клінтана пра НАТО. Прэзыдэнт Злучаных Штатаў выставіў новую праграму, названую 'Партнэрствам для свабоды'». Як глядзяць беларускія лідэры на далучэньне Беларусі да НАТО? Некаторыя ставяцца прыхільна да гэтай ідэі.

Расейскае прэсавае агентцва Ітар-Тасс падало зь Менску пра выказваньне Старшыні ВС РБ Ст. Шушкевіча: «Беларускі лідэр уважае, што плян амэрыканскага Прэзыдэнта Біла Клінтана, які дае магчымасьць Беларусі браць удзел у некаторых супольных мерапрыемствах НАТО, не супярэчыць нэўтральнаму статусу гэтай былой савецкай рэспублікі». (FBIS, 27.X.93)

Але Шушкевічавых паглядаў не падзяляюць некаторыя высакапастаўленыя расейскія генэралы. Газэта «Нью-Ёрк Таймс» падала 26 лістапада з Масквы, пад заг. «Расея перасьцерагае НАТО перад пашырэньнем на ўсход», заяву шэфа замежнай разьведкі Расеі Яўгена Прымакова. Прымакоў заявіў, што пашырэньне супрацоўніцтва НАТО на новыя краі Ўсходняе і Цэнтральнае Эўропы змусіць Расею «грунтоўна перагледзець усе свае абаронныя канцэпцыі, разьмяшчэньне ўзброеных сілаў і апэрацыйныя пляны».

Амэрыканская праграма «Партнэрства для свабоды» будзе абмяркоўвацца на нарадзе кіраўнікоў НАТО ў студзені наступнага году ды, пэўна-ж, будзе ў міжчасе дэбатавацца ў Менску.

## ПОЛЬШЧА РЫХТУЕ МІСІЯНЕРАЎ ДЛЯ БЕЛАРУСІ

У ліпеня 1993 году, падчас трынзытнага праезду з Варшавы ў Менск, на Першы зьезд беларусаў сьвету, аўтар гэтага артыкулу сядзеў у адным вагоне з групай беларускіх каталіцкіх сэмінарыстаў, якія варочаліся дамоў на Беларусь на канікулы. Падчас гутаркі аказалася, што гэтых маладых людзей (па 18-20 год) у Польшчы прыгатаўляюць да каталіцкай МІСІЯНЕРСКАЙ работы на Беларусі.

Паміж сабой яны гутарылі па-расейску з выразным польскім акцэнтам і ўжывалі шмат польскіх слоў, хоць у Польшчы былі яны ўсяго адзін год. Можна прадбачыць, як яны будуць апалячаны і ў якой мове будуць весьці сваю місіянерскую работу на Беларусі праз, скажам, пяць гадоў побыту ў Польшчы. Міжволі прыходзіць на думку езуіцкая пагаворка: «Дайце нам маладога хлопчыка, а мы яго зробім езуітам».

Завязалася ў нас з гэтымі будучымі місіянерамі гутарка. Ім польскія ксяндзы-выкладчыкі ўжо ўсьпелі расказаць аб каталіцкім сьвятым Андрэі Баболі, але яны ім нічога не казалі аб сьмерці праваслаўнага Афанасія, ігумена Берасьцейскага.

Сярод гэтых сэмінарыстаў толькі адзін гаварыў па-беларуску, а рэшта — па-расейску. Варта тут падкрэсьліць, што гэтыя расейскамоўныя хлопцы радзіліся, жылі, хадзілі ў школу на Беларусі, а беларускай мовы ня ведаюць ці ня хочуць ведаць, аднак пасьля толькі аднага году ў Польшчы стараліся гаварыць па-польску. А іхняя польская мова страшэнна прымітыўная.

Зьдзівіла мяне таксама, што гэтыя хлопцы, якія, можа, былі калісь акцябратамі, піянерамі, а можа й камсамольцамі, цяпер паехалі ў Польшчу вучыцца на місіянераў. O, tempora! O, mores! Што за часы! Што за абычаі!

Я ім сказаў, што паводле ватыканскай палітыкі, місіянераў вучаць мовы тых народаў, дзе яны будуць весьці сваю місіянерскую работу. Дык паводле гэтай пастановы, місіянераў на Беларусь трэба вучыць беларускае мовы. На гэта ня было адказу. Ня было таксаму адказу ў будучых місіянераў на маю заўвагу, што наездныя польскія ксяндзы ў Беларусі не заўсёды вядуць рэлігійную работу, а займаюцца палітыканствам, пашырэньнем польскай культуры, мовы, польскіх школаў і г.д. Усё гэта, натуральна, вядзецца на польскай мове.

Цікава, ці палякі ў Польшчы пазволілі-б праваслаўным сьвятаром, скажам, зь Беларусі ехаць у Польшчу і займацца місійнай работай, заснаваньнем беларускіх школаў, пашыраньнем беларускае культуры, вывешваньнем праваслаўных памятквых таблічак у цэрквах і да таго падобным.

Спатканьне з гэтымі будучымі місіянерамі зрабіла на мяне вельмі прыкрае і сумнае ўражаньне. Шкада мне было гэтых маладых, нявінных хлапцоў, што чужыя людзі ўжываюць іх для сваёй польска-місіянерскай работы. Дзіўлюся іхным бацькам, што яны на гэта пазволілі. А гэтае місіянерства можа давесьці да міжканфэсійнай варожасьці на Беларусі.

На што і каму гэтае місіянерства патрэбнае? Ці-ж ня мала місіянерская работа польскіх ксяндзоў на нашай зямлі (і ня толькі нашай) нарабіла няшчасьця, бяды, ненавісьці, нецялерантнасьці і г.д. у мінулых стагодзьдзях? Ці замала крыві пралілося із-за вуніі 1596 году?

Я баюся, што гэтае новае, адноўленае місіянерства можа прычыніцца да паўтарэньня сумных падзеяў з 16-17-га стагодзьдзяў. Хацеў-бы думаць і верыць, што беларускі ўрад зробіць усё магчымае, каб да гэтага не дапусьціць. Няхай у гэтым выпадку гісторыя не паўтараецца.

І на канец, ці не пара ўжо сказаць адкрыта і галасна розным польскім ксяндзом-місіянерам: «Пакіньце нас у супакоі. Не рабіце закалоту на Беларусі. Не рабіце ў нас таго, што вам самым было-б нямілае. Едзьце туды, адкуль вы прыехалі. Рабіце сваю рэлігійную работу ў Польшчы: вы там больш патрэбны».

**М. Швэдзюк**

### БЕЛАРУСЬ УХВАЛЯЕ СТАТУТ СНД

Урад Рэспублікі Беларусь ухваліў з папраўкамі Статут Садружнасьці Незалежных Дзяржаў (СНД), які быў прыняты ў Маскве 22 студзеня сёлета. Сутнасьць папраўак у тым, што Беларусь не дае аўтаматычнае згоды на пасыланьне свайго войска ў іншыя дзяржавы СНД і ня прыймае на сваю тэрыторыю войскаў зь іншых дзяржаваў Садружнасьці. У кожным гэткім выпадку патрэбная будзе згода Вярхоўнага Савету РБ.

Статут СНД павінен яшчэ быць ратыфікаваны Вярхоўным Саветам рэспублікі. (FBIS, 16.XI.93)



**БЕЛАРУСКІ ІНСТЫТУТ НАВУКІ І МАСТАЦТВА**
**БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАЕ ЗАДЗІНОЧЫНЬНЕ**
**АРГАНІЗАЦЫЯ БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАЕ МОЛАДЗІ**



## *УШАНАВАЛЬНЫ БАНКЕТ*
## *90-х Угодкаў Жыцьця*
# НАТАЛЬЛІ АРСЕНЬНЕВАЙ

Нядзеля 14 лістапада, 1993г Гаят-Рыджэнсы, Нью-Брансвік, Н.Дж.

У нядзелю 14 лістапада ў аднэй з заляў гатэлю Гаят-Рыджэнсы ў гор. Нью-Брансьвіку адбыўся банкет у гонар Натальлі Арсеньневай, паэткі, шматгадовай грамадзкай і культурнай дзяячкі, былога рэдактар газэты «Беларус», з нагоды 90-х угодкаў ейнага жыцьця. Сьвяткаваньне ладзілі тры арганізацыі: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне, Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва ды Арганізацыя Беларуска-Амэрыканскае Моладзі, у якіх і для якіх сп-ня Н. Арсеньнева-Кушаль найбольш папрацавала.



*Сп-ня Натальля Арсеньнева разглядае падарунак ёй ад сп-тва Юлі і Генадзя Бураўкіных — выробленыя з саломкі вазу і кветкі. Фота А. Сільвановіча.*

На запросіны гэтых арганізацыяў юбілярка прыехала з далёкага гор. Рачэстэру ў Нью-ёрк на тыднёвую пабыўку да свае найбліжэйшае даўнае сяброўкі й супрацоўніцы на грамадзкай ніве сп-ні Яніны Кахаоўскай, закватэраваўшы ў гасьцінным доме спства Юлі й Паўла Андрусышыных.

Людная юбілейная бяседа прайшла ў цёплай нефармальнай атмасфэры. Была нагоды шчыра пагаварыць ды паслухаць красамоўства прамоўцаў і дэкляматараў. Урачыстасьць адкрыў сп. Антон Шукелайць, старшыня БАЗА. Айцец пратаерэй Васіль Андрэюк сказаў малітву і прачытаў прывітаньне юбілярцы ад Мітрапаліта БАПЦ Мікалая. Прысутныя адсьпявалі традыцыйную ўжо у некаторых беларускіх цэрквах малітву «Магутны Божа» (словы Н. Арсеньневай, музыка Міколы Равенскага).

Пра юбілярку, ейную паэзію і грамадзкую працу гаварылі ў сваіх выступленьнях сп.сп. А. Шукелайць, др. Вітаўт Кіпель, старшыня БІНіМ; пасол РБ пры ААН Генадзь Бураўкін, Кастусь Мерляк, шматгадовы супрацоўнік сп-ні Арсеньневай у БАЗА; Вера Запруднік, старшыня АБАМ; Уладзімер Курыла; Антон Даніловіч (паэт Янка Золак); др. Ала Орса-Рамана, Мікола Ваўранюк, Адам Акуліч. Сп-ні Арсеньневай былі перададзеныя ў падарунак ружы ад арганізатараў, а таксама ружы ды выробленыя з саломкі ваза й букет кветак ад сп-тва Генадзя й Юлі Бураўкіных, а сп-ня Зора Кіпель перадала ад паэткі Дануты Бічэль-Загнетавай зборнік ейных вершаў з прысьвятай юбілярцы.

З дэкламацыямі вершаў Арсеньневай выступілі сп-ні Ірэна Цупрык і Рыма Маленчанка, заслужаная артыстка Рэспублікі Беларусь. Дэклямавала свае вершы і сама юбілярка пад гучныя воплескі аўдыторыі. Шмат хто скарыстаў нагоду, каб атрымаць ад сп-ні Арсеньневай аўтограф на зборніку ейных вершаў «Між берагамі».



*Сп-ня Н. Арсеньнева са сваёй найбліжэйшай прыяцелькай, сп-няй Янінай Кахаоўскай. Фота Я. Запрудніка.*

Урачыстасьць закончылася супольным адсьпяваньнем патрыятычнае песьні «Беларусь наша Маці-Краіна» (словы Н. Арсеньневай, музыка М. Куліковіча).

Др. Янка Запруднік, які вёў праграму бяседы, прачытаў шматлікія пісьмовыя вітаньні юбілярцы, што прыйшлі з Бацькаўшчыны ды з розных краін, а таксама падаў да ведама тэкст звароту «Да грамадзян Беларусі і да міжнароднай супольнасьці», прыняты ў Менску 6 лістапада сёлета ад імя больш як 13 арганізацыяў і партыяў у адказ на паклёп з боку ўраду РБ супраць Беларускага Народнага Фронту і Беларускага Згуртаваньня Вайскоўцаў.

Закрываючы ўрачыстасьць, Я. Запруднік падзякаваў спсп. Янку Азарку, Юрку Азарку і Васілю Русаку, якія добра справіліся з практычным бокам сьвяткаваньня, ды ўсім, хто сваім удзелам ушанаваў паэтку, якой было прасьпяванае дружнае «Многае лета».

## *З ПРЫВІТАНЬНЯЎ НА 90-я ЎГОДКІ НАТАЛЬЛІ АРСЕНЬНЕВАЙ*

Прывітаньні тэлеграфічныя і тэлефанічна-асабістыя былі перададзеныя сп-ні Арсеньневай Міністрам замежных справаў РБ Пятром Краўчанкам. Ніжэй падаюцца часткі іншых пісьмовых віншаваньняў.

* * *

*Мы, сябры Сойму Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне", шлем Вам на Вашую юбілейную вечарыну нашыя шчырыя прывітаньні й віншаваньні. Многія з нас захапляліся Вашым пранікнёвым паэтычным словам яшчэ тады, калі Беларусь была за жалезнаю заслонай. Ваш талент, натхнёны ідэаламі беларускага адраджэньня, засьветчыў творчую моц і гожасьць беларускага слова. Здароўя Вам, творчага настрою і доўгіх гадоў жыцьця!* — Менск, 13 лістапада 1993 г., паседжаньне Сойму БНФ «Адраджэньне».

* * *

*Усё Ваша доўгае і ў чымсьці няпростае жыцьцё было асьветлена дзьвюма галоўным рэчамі: Вашай любоўю — з адценьнем тугі і смутку — да Беларусі і Вашай яскравай паэзіяй. Менавіта гэта робіць Вашы творы своеасаблівым, не падобным ні на што іншае гімнам сьціплай прыгажосьці нашай Бацькаўшчыны, духоўнай вышыні яе людзей. Таму, упэўнены, ім наканаваны цудоўны лёс на доўгія гады, на шмат пакаленьняў народжаных на сваёй вольнай Радзіме беларусаў і беларусаў ва ўсім сьвеце.* — Вашынгтон, *10.XI.1993 г.*, С. Мартынаў, пасол РБ ЗША.

* * *

*Вашая паэзія, якая натхняла беларусаў замежжа, сёньня гучыць моцным голасам на Бацькаўшчыне. Яна вучыць беларусаў любіць і шанаваць сваю зямлю, свой народ сваю мову.*

*7-га сьнежня сябры клюбу «Спадчына» праводзяць літаратурна-музычны вечар прысьвечаны Вашаму юбілею, на які так сардэчна запрашаем Вас, шаноўная Натальля Арсеньнева.*

*А сёньня, хаця нас і раз'ядноўваюць тысячы кілямэтраў, духова мы разам з Вамі. Жадаем Вам здароўя, шчасьця, новых твораў. Чакаем Вас на Бацькаўшчыне. Жыве Беларусь!* — Анатоль Белы, старшыня Клюбу «Спадчына».

* * *

*Ад імя Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады й Задзіночаньня Беларускіх Жанчын Канады, якое ганарыцца Вашым у ім сяброўствам, я маю гонар і вялікую прыемнасьць вітаць Вас зь 90-мі ўгодкамі жыцьця і жадаць Вам у добрым здароўі й паўнаце творчых сілаў сустрэць наступны вялікі юбілей.* — Бэры, Антарыё, 30.X.1993 г., Раіса Жук-Грышкевіч, старшыня ККБК.

*Вы не змарнавалі свае пражытыя гады, улажыўшы столькі цэннай працы на ніве беларускай літаратуры, якая будзе вечна жыць у беларускім народзе. Таксама праз усё Вашае жыцьцё на Бацькаўшчыне і на эміграцыі Вы аддана працавалі на карысьць Беларускай Народнай Рэспублікі.*

*Ад імя Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі я маю гонар злажыць Вам найлепшыя пажаданьні з нагоды Вашых 90-х угодкаў жыцьця.* — Лёндан, 6 лістапада 1993 г., Я. Міхалюк, старшыня ЗБВБ.

* * *

*Бэльгійскі сэктар Рады Беларускае Народнае Рэспублікі і ўся беларуская грамада ў Бэльгіі вітаюць слаўную й высоказаслужаную беларускую паэтэсу й няўтомную грамадзкую дзеячку Натальлю Арсеньневу зь 90-мі ўгодкамі жыцьця. Ейны «Магутны Божа» пасьля доўгіх гадоў гучэньня за межамі дарагое Бацькаўшчыны нарэшце прагучэў і прадаўжае гучэць і на роднай Беларусі. Хай-жа Магутны Бог-Уладар сусьветаў пашле ёй добрае здароўе, моцную сілу й вялікія творчыя посьпехі яшчэ на шматлікія гады.* — Янка Жучка, старшыня сэктару.

* * *

*Многія зь сяброў і сябровак беларускай калёніі ў Кліўлендзе добра ўспамінаюць Вас, вельмі паважаная й дастойная Натальля Арсеньнева, як настаўніцу Беларускае гімназіі імя Янкі Купалы ў Нямеччыне, а таксама ўспамінаюць, як яны прыймалі актыўны ўдзел у пастаноўках Вашых п'есаў, дэклямацыях Вашых вершаў у часе ладжаных канцэртаў ці нацыянальных угодкаў як у Нямеччыне, гэтак і тут у Амэрыцы. Таксама вельмі мы ўдзячныя Вам за дапамогу ў выдаваньні аддзелам моладзі калядных і вялікодных паштовак з Вашымі прывітальнымі тэкстамі.*

*Вы ўзбагацілі нашу літаратуру й дапамаглі ў нацыянальным адраджэньні. Верш «Магутны Божа» стаўся царкоўным гімнам ужо даўно на эміграцыі, а цяпер карыстаецца вялікай папулярнасьцю ў Беларусі.* — Кліўленд, 13 лістапада 1993 г., Янка Ханенка, старшыня аддзелу БАЗА.

* * *

*Ваша плённае і актыўнае жыцьцё напоўнена багатым рэпэртуарам паэтычнай творчасьці, грамадзкай дзейнасьці на карысьць беларускага народу і нашай роднай Маці-Беларусі.* — Лёс-Анджэлес, Кастусь Вайцяхоўскі, выконваючы абавязкі старшыні аддзелу БАЗА ў Каліфорніі.

* * *

*Падчас маіх частых паездак на Беларусь мне прыходзіцца назіраць, як Ваша творчасьць робіцца там усё больш ведамай і здабывае новых прыхільнікаў, асабліва сярод маладога пакаленьня. Дый інакш быць ня можа, бо Ваша паэзія — неад'емная частка духоўнага багацьця нашага народу.*

*Некалі я і беларусы майго пакаленьня вучыліся любіць Беларусь, сьпяваючы песьні, напісаныя на словы Вашых вершаў. Сёньня ўвесь Беларускі народ Вашымі словамі*

**(Працяг на 4-й ст.)**

*З жыцьця ў Канадзе*

# МЕСЯЦ ГІСТОРЫІ ЖАНЧЫНЫ Ў КАНАДЗЕ

Яшчэ ў травені Міністар для Статусу Жанчыны сп-ня Мэры Колінс прыслала кіраўніцтву Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады (ККБК) ліст, у якім яна прыпамінала, што летась кастрычнік быў абвешчаны ёю Месяцам Гісторыі Жанчыны й заахвочвала ўсе групы канадзкага грамадзтва адзначыць яго адпаведна. Мэта гэтага мерапрыемства — узмоцніць усьведамленьне і прызнаньне значэньня ўкладу працы жанчыны ў жыцьцё грамадзтва, народу й чалавецтва. Міністар зазначыла, што леташні Форум Жанчын, у якім брала ўдзел 80 этнічных групаў Канады, сустрэў ідэю Месяца Гісторыі Жанчыны надзвычай энтузіястычна.

Энтузіястычна сустрэла прапанову сп-ні Мэры Колінс і кіраўніцтва ККБК. Пазытыўна аднесьліся да прапановы арганізаваць сьвяткаваньне Месяца Гісторыі Жанчыны й беларускія жанчыны Канады.

У суботу 23 кастрычніка заля Беларускага Рэлігійна-Грамадзкага Цэнтру ў Таронта была гатовая да надзвычайнага сьвята. Пасярэдзіне яе быў агромністы стол, пакрыты беларускім дыванам (собскасьць Марыі Ганько), упрыгожаны па-мастацку зробленым букетам з сухіх кветак (творчасьць Лены Кулеш, кветкі зь ейнага кветніка). Навокала вялікага стала была наладжана выстаўка кніг і іншых выданьняў жанчын і аб жанчынах. Выстаўку ачольваў партрэт полацкіх князёў — Рагнеды й Рагвалода.

Асобны стол, пакрыты беларускім дыванам, быў прысьвечаны князёўне Прадславе-Еўфрасіньні Полацкай. Пасярод яго, абапіраючыся аб гонкі лісьцясты вазон, красаваў партрэт Еўфрасіньні Полацкай работы нашай мастачкі Івонкі Сурвіла. Побач яго — іншы партрэт Еўфрасіньні зь вершам Алеся Звонака «Беларускія жанчыны».

Трэці стол прысьвечаны ўмельству жанчыны. Пышныя, багатыя беларускім арнамэнтам ручнікі, па-мастацку падкрэсьліваючы іхнюю красу, пакрывалі стол, пасярод якога, на фоне кампазыцыі сухіх кветак (Лены Кулеш), як каравай, красаваў вялікі фруктовы торт работы Барбары Мураўскае. На заканчэньне вечару прысутныя частаваліся ім з кавай.

Кругом вялікага стала з дастойнасьцю занялі мейсца жанчыны. Сярод іх Саша Кулеш, унучка Лены. Сход адкрыла, прывітаўшы Ўладыку Мікалая, гасьцей-мужчын, і сяброўак-жанчын, старшыня ККБК др. Раіса Жук-Грышкевіч. Яна расказала пра мэту сьвяткаваньня Месяца Гісторыі Жанчыны ды зазначыла, што хоць жанчына і ўклад ейнай працы не заўсёды дацэньваюцца грамадзтвам і гісторыяй, ды нашую славутую Еўрасіньню Полацкую гісторыя й беларускі народ ацанілі і ўславілі. Пра яе цяпер яна й зрабіла даклад.

Другой дакладчыцай была Лена Кулеш, беларуска другога пакаленьня, замужам за Міхасём Кулашом, беларусам першага пакаленьня. Яна самая дзейная, часта ў функцыі старшыні, у канадзкіх грамадзкіх арганізацыях, яна сяброўка Задзіночаньня Беларускіх Жанчын Канады (ЗБЖК). У каны 60-х гадоў была англамоўным сакратаром ККБК, калі старшынём яго быў сьв. пам. др. Вінцэнт Жук-Грышкевіч. Яна гаварыць па-беларуску, але расказ яе «Гісторыя майго жыцьця й працы» быў у ангельскай мове дзеля таго, што прысутнічалі й англамоўныя жанчыны.

Расказ Лены Кулеш быў вельмі цікавы. Ён заахвоціў і іншых жанчын расказаць пра сябе. І папарадку ўсе кругом стала, пачынаючы ад Леаноры Пітушкі, сталі апавядаць пра галоўныя, часам драматычныя, падзеі іхнага жыцьця. Андрэя Кулеш расказала, што абое ейныя бацькі ангельцы зь нейкай дамешкай ірляндзкай крыві. Калі толькі пачала пра сябе гаварыць наступная — Марыя Ганько, малая Саша, дачушка Андрэі Кулеш, голасна запратэставала: "It's my turn!" — цяпер мая чарга! Гэтая малая, хоць амаль усе гаварылі па-беларуску, дасканала ведала пра што гаворка. Далі ёй слова. Пачала Саша расказ тым, што як яна была бэйбі, яна не магла хадзіць, а поўзала. Пытаюцца яе, колькі-ж табе год? Паказваючы тры пальчыкі з гонарам заявіла: "three!". Сход аднагалосна прызнаў, што Саша ўжо "big girl!"

Івонка Сурвіла, фэфэрэнт вонкавых дачыненьняў управы ККБК, старшыня Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў Канадзе, старшыня Канадзкага Фонду Дапамогі Ахвярам Чарнобыля ў Беларусі, гаварыла пра стварэньне, дзейнасьць, цяжкасьці й дасягненьні гэтага Фонду, пра дзяцей з радыяцыйнай зоны, якіх з году ў год арганізацыя Фонду прывозіць у Канаду на шасьцітыднёвыя канікулы, каб ачысьціць іхнія арганізмы ад забойчай радыяцыі. У сувязі з гэтым яна гаварыла й аб нашым, як жанчын, заданьні. У выніку жанчыны сталі паважна разважаць, як арганізаваць здабываньне фондаў для дапамогі дзецям Чарнобыля ў Беларусі.

Раіса Жук-Грышкевіч перадала прысутным ад Олі Грыцук, старшыні ЗБЖК, прывітаньні й шкадаваньне, што з прычыны хваробы яна не змагла быць сяньня з намі ды што благое здароўе не дазваляе ёй прадаўжаць грамадзкую працу. У выніку гэтага асьветчаньня былі зробленыя перавыбары ўправы ЗБЖК. На старшыню была выбрана Марыя Ганько, скарбнік парафіі Сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронта, няўтомная арганізатарка грамадзкіх застольных бяседаў. Ува ўправу ўвайшлі Ванда Сільвановіч й Барбара Мураўская.

У далейшай праграме вечара Раіса Жук-Грышкевіч успамінала і іншых заслужаных беларусак, як Натальлю Арсеньневу, адну з найбольшых беларускіх паэтак, якой сёлета 20 верасьня споўнілася 90 год. У лютым 1969 г. ЗБЖК запрасіла яе, сваю ганаровую сяброўку, у Таронта й зладзіла ёй літаратурны вечар.

Успомнім мастачку Галіну Русак, якой ЗБЖК увосень 1989 г. зарганізавала ў Таронта першую выстаўку ейных прац і гэтым дало пачатак ейным ужо шматлікім выстаўкам.

Успомнім беларускую паэтку й дзеячку Алёйзу Пашкевіч Цётку, 50-я ўгодкі ад сьмерці якое ў 1966 г. ЗБЖК адзначыла акадэміяй з дакладам.

Успомнім беларускую паэтку Ларысу Геніюш, 60-я угодкі жыцьця якое адзначала ўрачыстасьцю з дакладам тое-ж ЗБЖК у верасьні 1970 году.

У канцы 1975 г. ЗБЖК урачыста сьвяткавала Дэкаду Жанчыны. У праграме была выстаўка партрэтаў слаўных беларусак работы Івонкі Сурвіла, выстаўка кніг жанчын і аб жанчынах ды даклады аб слаўных беларусках. На тым вечары адбыліся перавыбары ўправы ЗБЖК. На месца ранейшай старшыні арганізацыі, др. Раісы Жук-Грышкевіч, выбралі Вольгу Грыцук.

Успомнім Зору Кіпель, аўтарку кнігі The Byelorussian Tristan, матку двух дзейных у беларускім жыцьці беларускамоўных дзяцей: лекара-Юркі й юрыста-Алесі.

Успомнім др. Алу Орса-Романа, прафэсара хіміі, кіраўнічку танцавальнага гуртка «Васілёк»; настаўніц беларускіх гімназіяў на чужыне: Ірэну Будзька-Пануцэвіч, Людовіку Будзка-Беленіс, Валю Жукоўскую-Пашкевіч, Раісу Галяк, Натальлю Орса, Зіну Станкевіч, Апалёню Савёнак, аўтарку першага на эміграцыі «Беларускага Лемантара», выданага ў Нямеччыне ў 1948 годзе.

Успомнім Кацярыну Стаўбунік, выдатную беларускую дзеячку, рассадніцу беларускай сьведамасьці ў Пружаншчыне, дзякуючы якой моладзь Пружаншчыны наведвала Віленскую Беларускую Гімназію, а пасьля — Унівэрсытэт Сьцяпана Батуры і была сябрамі Беларускага Студэнцкага Саюзу ў Вільні.

Успомнім мясцовых: Валю Пашкевіч, шматгадовую настаўніцу суботняй школы й кіраўнічку танцавальнай групы ў Таронта, аўтарку «Беларускай Чытанкі» і двутомнага англамоўнага падручніка «Беларуская Мова» — Fundamental Byelorussian, складальніцу беларуска-ангельскага слоўніка, які цяпер друкуецца, матку двух дзейных у беларускім жыцьці беларускамоўных дзяцей — Паўлюка й Эвы.

Успомнім Марту Слаўко, якой сёлета споўнілася 90 год, матку семярых дзяцей. Яна — ганаровая сяброўка ЗБЖК. Калі ў 1954 г. ў Таронта была зарганізавана парафія Сьв. Кірылы Тураўскага БАПЦ, зь першае багаслужбы праз доўгія гады Марта Слаўко з сваім мужам-псаломшчыкам, нябожчыкам ужо, былі астояй царкоўнага хору.

Дачка Івонкі Сурвіла Паўлінка Сурвіла-Вахман, дактарантка, напісала магістэрскую працу на тэму беларускай музыкі як асыстэнтка-выкладчыца пры Ўнівэрсытэце Штату Мічыган, чытала студэнтам некалькі разоў лекцыі аб беларускай музыцы.

Др. Зінаіда Гімпелевіч, аўтарка навуковых прац, прафэсар Унівэрсытэту ў Вотэрлё, дзейны супрацоўнік Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў Канадзе, заступнік старшыні Канадзкага Фонду Дапамогі Ахвярам Чарнобыля ў Беларусі.

Прызнаем уклад працы ўсіх тут прысутных і няпрысутных жанчын матак і бабуляў, якія ўзгадоўваюць сем'і — падставу народу, дзяцей — будучыню народу, якія стаяць блізка да беларускага жыцьця, падтрымваюць яго, падтрымваюць беларускія цэрквы сваёй працай, рупліваасьцяй, і грамадзкія імпрэзы сваёй прысутнасьцяй і сваім удзелам.

З асаблівай пашанай і ўдзячнасьцяй схіляем мы сяньня галовы перад нашымі Маткамі, якія далі нам жыцьцё, узгадавалі й далі нам магчымасьць быць, як і яны, карыснымі нашаму народу, служыць нашым ідэалам — Богу й Бацькаўшчыне-Беларусі.

**Раіса Жук-Грышкевіч**

## З ПРЫВІТАНЬНЯЎ Н. АРСЕНЬНЕВАЙ

*(Заканчэньне з 3-ій ст.)*

*моліцца Ўсемагутнаму Богу за сваю Бацькаўшчыну.* — Лёндан, 14 лістапада 1993 г., а. Аляксандар Надсан.

* * *

*Ваш цэлы жыцьцёвы шлях, ад Вільні да Менску, ад Казахстану да Амэрыкі, засланы кветкамі цудоўнай паэзіі, пачынаючы першым вершам, чытаным Максімам Гарэцкім у Вільні, да навейшых «Між берагамі» і магутным «Магутны Божа», што стаўся малітвай беларускай эміграцыі і нядаўна красаваўся на самай вярхушцы кандыдатаў пры выбары беларускага нацыянальнага гімну. Вашыя вершы, данядаўна забароненыя на Бацькаўшчыне, дачакаліся часу, што й там цешацца вялікай папулярнасьцяй сярод шырокай беларускай грамадзкасьці. У канцы, сіла дабра перамагла.* — Торэнс, Каліфорнія, 3 лістапада 1993 г., Я. Арцюх, рэдактар «Беларускага Агляду».

* * *

*Рэдакцыя часопісу «Полацак» шчыра вітае Наталью Арсеньневу з днём нарадзінаў і зычыць ёй доўгага творчага жыцьця й плённай працы на карысьць Бацькаўшчыны.* — Клівленд, 9 лістапада 1993 г., Сьвятлана Белая.

* * *

*Калісьці мы, моладзь, натхнёныя Вашымі цудоўнымі творамі, намагаліся ў жахлівы ваенны час адбудоўваць і ратаваць ад зьнішчэньня нашу дарагую Бацькаўшчыну. Некаторыя з нас, ужо тут на выгнаньні, побач Вас, далі свой сьціплы ўклад у тытанічныя намаганьні нашых патрыётаў, каб вызваліць Беларусь з маскоўска-бальшавіцкага ярма.*

*Пялёсткі й насеньне Вашай паэзіі рассыпаліся й прарастаюць на Бацькаўшчыне, якая зноў падымаецца да новага незалежнага жыцьця.* — Таронта, Канада, 3 лістапада 1993 г., Кастусь К. Акула.

* * *

*Вяшчуньні, што ахрышчана ў зялёных дубровах Беларусі — прывітаньне з далёкае, халоднае Мінэсоты.* — Мантысэля што ў Мінэсоце, 8 лістапада 1993 г., Мацьвей Рэпкаў-Смаршчок.

* * *

*Лепш ня скажаш як аб Вас напісаў паэт Міхась Машара ў 1937 годзе:*

*Дачка Радзімы шчырая,*
*І там ў сям'і чужой*
*Ты служыш звонкай ліраю*
*Краіне маладой!*

—Рочэстэр, Н.Ё., Віктар Казлоўскі (Верасень).

* * *

*Шчырае дзякуй Вам за веру і надзею:*

*Ён прыйдзе гэты дзень!*
*Ён ня прыйсьці ня можа!*
*Ён прыйдзе…*

*Словы гэтыя ня раз усплывалі на паверхню сьвядомасьці на працягу апошніх дзесяцігодзьдзяў. А Дзень гэты, калі яшчэ ня прыйшоў, дык недалёка — мо нават на парозе.* — Гуль, Канада, 14 лістапада 1993 г., Івонка і Янка Сурвіллы.

* * *

*Шлём нашыя найлепшыя пажаданьні ў Дзень Вашых народзінаў.* — Лёс-Анджэлес, 4 лістапада 1993 г., Кацярына і Славік Вініцкія.

* * *

*Гэтым вітаем Вас зь 90-мі ўгодкамі пленнага жыцьця для беларускай паэзіі.* — *Пасадэна, Каліфорнія, 2 лістапада 1993 г., сям'я Найдзюкоў.*

# БЕЛАРУСКА-ПОЛЬСКІЯ ДАЧЫНЕНЬНІ Ў ВЯЛЕЙШЧЫНЕ (1941-1944 гг.)

**Ад Рэдакцыі:** *Зьмешчаныя ніжэй успаміны Аляксандра Калодкі былі напісаныя ў Аўстраліі на пачатку 1980-х гадоў, а ў красавіку 1991 г., пасьля сьмерці іхнага аўтара, перапісаныя з рукапісу на машынцы нябожчыкам Міколам Скабеем, які прыслаў іх у Рэдакцыю «Беларуса».*

* * *

Хутка споўніцца 40 год ад пачатку нямецка-савецкай вайны й акупацыі немцамі былой Заходняй Беларусі.

Пасьля бальшавіцкага «вызваленьня» ў верасьні 1939 г. амаль увесь польскі элемэнт хутка зьнік з тэрыторыі былой Заходняй Беларусі. Ужо на пачатку бальшавіцкай акупацыі былі апрыштаваныя й вывезеныя на «дабраахвотнае пасяленьне» ці ў канцэнтрацыйныя лягеры былыя польскія ўрадаўцы, лясьнікі, аб'езджыкі, паліцыянты. Кульмінацыйнага пункту арышты дасягнулі ўзімку 1939-40 году. Вялікая колькасьць палякоў з былой Зах. Беларусі, ухіляючыся ад вывазу ў Сібір, знайшла прытулак у Вільні, дзе «вызвольнікі» былі толькі няпоўны месяц. Частцы палякоў удалося перабрацца ў этнаграфічную Польшчу, акупаваную немцамі.

**Беларускі Камітэт у Варшаве**

Ад самага пачатку існаваньня незалежнай Польшчы (ад 1918 г.) у Варшаве заўсёды знаходзілася нейкая колькасьць беларусаў: работнікаў і інтэлегенцыі. Сталымі жыхарамі гораду былі праф. Вацлаў Іваноўскі, паэт-нашанівец Гальляш Леўчык, архівіст-літаратуравед інж. Рамуальд Зямкевіч. Часовымі жыхарамі была беларуская моладзь: студэнты ВНУ ды факультэту праваслаўнай тэалёгіі Варшаўскага ўнівэрсытэту (Аўген Баслык, Мікалай Лапіцкі, Барыс Шышко, Нарко — пазьнейшы еп. Філафей, Мартас — пазьнейшы еп. Апанас).

У перадваеннай Варшаве існавала Асьветнае Таварыства Беларусаў. Пасьля капітуляцыі Польшчы ў 1939 г. ў Варшаву прыехалі два беларускія лекары: др. Вітаўт Тумаш і др. Мікалай Шчорс. Яны актывізавалі дзейнасьць даўным-даўно заснаванага Беларускага Нацыянальнага Камітэту.

Стаўленьне нямецкіх акупантаў да беларусаў, украінцаў, летувісаў у Польшчы (Генэральнай Губэрні) было даволі прыхільнае, і рэестрацыйныя посьветкі БНК мелі сваю вагу ўвачу немцаў. Вось чаму шмат палякоў, што ведалі беларускую мову (а часткава і на дырэктыву польскіх канспірацыйных арганізацыяў) ішлі рэгістравацца ў БНК. Некаторым зь іх удавалася таксама нейкім цудам мець, апрача таго, і посьветкі ад розных нямецкіх установаў.

**З пачаткам нямецка-савецкае вайны**

22 чэрвеня 1941 г. нямецкія войскі пачалі ваенныя дзеяньні. На другі дзень вайны Вільня й вялікая частка Беларусі былі ўжо ў нямецкім валоданьні.

Ужо першымі тыднямі акупацыі пачалі зьяўляцца весткі аб жудасных зьдзеках над беларускім насельніцтвам нямецкіх ортскамандантаў і польскай дапаможнай паліцыі.

Адкуль зьявіліся на Віленшчыне й Вялейшчыне палякі?

Як ужо ўспаміналася, у самой Вільні апынулася значная колькасьць палякоў, якія ўцяклі ад бальшавікоў з Заходняй Беларусі. Яны й былі тэй першай хваляй, што паплыла ў беларускія паветы й валасьці амаль усьлед за першымі калёнамі нямецкіх войскаў, усоды прапануючы ім свае паслугі. Другой хваляй сталіся палякі, зарэгістраваныя ў БНК у Варшаве. Сярод іх нейкая частка была гэтак званых фальксдойчаў (палякоў нямецкага паходжаньня або тых, што мелі нямецкія прозьвішчы). Вось гэтыя палякі ўжо на самым пачатку нямецкай акупацыі захапілі амаль усе адміністрацыйныя становішчы ды пачалі тэрарыстычную акцыю супраць сьведамай беларускай інтэлігенцыі і сьведамага беларускага сялянства.

У першых тыднях акупацыі з рук польскай «паліцыі парадку» (Ordnungspolizei) былі забітыя сотні людзей, сярод якіх у Ашмяне трэба назваць Міхася Галяса, дзеяча Беларускай Хрысьціянскай Дэмакратыі (БХД); у Астраўцы падчас так званых уцёкаў (польская вэрсія) быў застрэлены польскай паліцыяй Вайцех Шутовіч, брат ведамага беларускага дзеяча Янкі Шутовіча (Вайцех Шутовіч, выпускнік Гандлёва-гаспадарчай школы ў Вільні, ніякай палітычнай ці грамадзкай дзейнасьці не праводзіў); у Глыбоччыне быў застрэлены польскай паліцыяй Кузьма Крук, шматгадовы радны Віленскай Гарадзкой Рады; у Наваградку з польскіх рук загінуў Уладзімер Панько, інжынер-электрык; у Міры Стаўпецкага павету — Павал Брылевіч, настаўнік і мясцовы беларускі дзеяч; у Лідчыне — Рандарэвіч, дзеяч БХД; бясьсьледна зьнік у Сьвірскім павеце праф. Станіслаў Любіч-Маеўскі, аўтар шматлікіх працаў з галіны геаграфіі; у Маладэчанскім павеце Юльяну Саковічу і Паўлу Асіповічу цудам удалося вырвацца з рук польскай паліцыі і ўцячы ў Менск.

Не магло быць ніякага сумлеву, што палякі, захапіўшы ўладу ў свае рукі, глядзелі на Заходнюю Беларусь, як на неадлучную частку Польшчы.

Праз Вялейку ішла польская інфільтрацыя ўва Усходнюю Беларусь: у Менск, Слуцак, Віцебск. На загад Архібіскупа Рамуальда Яблжыкоўскага польскія каталіцкія ксяндзы пачалі «місіянерскую» працу далёка на ўсход ад мяжы Рыжскага трактату (гл., прыкладам, кнігу ксяндза Валерыяна Мэйштовіча "Poszło z dymen" (выд. Польскай Культурнай Фундацыі, Лёндан, 1973). У самой Вялейшчыне даводзілася бачыць такія кур'ёзныя шыльды, як Posterunek Polskiej Policji Państwowej (Аддзел Польскай Дзяржаўнай Паліцыі).

**Беларускі Нацыянальны Камітэт (БНК) у Вільні**

У самой Вільні была даволі вялікая колькасьць беларускай інтэлігенцыі. Спантанічна паўстала думка зарганізаваць Беларускі Нацыянальны Камітэт (БНК) з тэй самай мэтай як і ў Варшаве, а гэта: агульнае прадстаўніцтва, узаемная дапамога, абарона беларусаў перад нямецкімі акупацыйнымі ўладамі. Зь ведамых беларусаў у Аўстраліі да камітэту належалі сьв. пам. архімандрыт Мадэст Яцкевіч, др. Язэп Малецкі, др. Бразоўскі ды ніжэйпадпісаны.

Ужо праз колькі тыдняў да нас пачалі даходзіць весткі аб розных зьдзеках польскай адміністрацыі ў розных паветах Вялейшчыны.

У канцы жніўня 1941 году мы мелі неспадзяванага гасьця — праездам праз Вільню затрымаўся тут вельмі коратка кс. Вінцэнт Гадлеўскі ў таварыстве барона Аўгена фон Энгельгардта. Энгельгардт быў латышскім немцам, знаў добра беларускую мову ды крытычна ставіўся да нацыянальнай палітыкі нямецкіх акупацыйных уладаў. З нагоды іхнага прыезду было скліканае спэцыяльнае паседжаньне БНК. Галоўным прамоўцам быў кс. Гадлеўскі. Ён зусім выразна насьвятліў мэты гітлераўскай палітыкі адносна беларусаў. Аб незалежнасьці, казаў ён, ня можа быць і мовы. Праўдападобна, дадуць толькі вельмі агранічаную аўтаномію. Ніякіх вышэйшых школаў, толькі пачатковыя ды сям-там сярэднія. У Вільні, казаў прамоўца, трэба пакінуць толькі некалькі чалавек інтэлігенцыі, а рэшта павінна ехаць у Менск, а адтуль — у правінцыяльныя гарады, зь якіх трэба выціснуць чужы польскі і расейскі адміністрацыйны элемэнт.

Хутка па ад'езьдзе кс. Гадлеўскага было скліканае паседжаньне БНК, на якім, пасьля доўгай дыскусіі, было пастаноўлена разьехацца ў розныя акругоўныя цэнтры ды ў Менск.

Сябры БХД (група кс. Адама Станкевіча) амаль цалком з'ігнаравалі БНК і толькі пазьней некаторыя (як напрыклад інж. Адольф Клімовіч, Адам Дасюлевіч, Альфонс Шутовіч) выламаліся з-пад дысцыпліны.

Я ў канцы жніўня 1941 году выехаў у Менск. Па нейкім часе спаткаўся там з Радаславам Астроўскім ды атрымаў ад яго накіраваньне, разам зь Юстынам Мурашкам, у Маладэчна. У першай палавіне верасьня 1941 году Мурашка й я прыехалі ў Маладэчна. Мурашка чакаў там на працу як начальнік Маладэчанскага павету, а я заняў становішча павятовага начальніка паліцыі.

**Аляксандар Калодка**

*(Працяг у наступным нумары)*

## *БЕЛАРУСКАЯ СЭКЦЫЯ РС У НЬЮ-ЁРКУ ПАД ПАГРОЗАЙ ЗАЧЫНЕНЬНЯ!*

З пачаткам наступнага году можа перастаць існаваць Беларуская сэкцыя радыё «Свабода» ў Нью-Ёрку, дзе зачыняюцца таксама шмат якія іншыя нацыянальныя сэкцыі ў выніку рэзкага скарачэньня бюджэту. Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне і іншыя беларуска-амэрыканскія арганізацыі стараюцца пераканаць кіраўніцтва РС у неабходнасьці захаваньня Беларускае сэкцыі ў Нью-Ёрку, паколькі Нью-Ёрк — вельмі важны цэнтар беларускага жыцьця, а «Голас Амэрыкі» беларускамоўных перадачаў ня мае.

Як падала газэта «Нью-Ёрк Таймс» (20.XI.93), за захаваньне поўнага аб'ёму перадачаў РС выказаліся гэткія ўплывовыя асобы, як чэшскі Прэзыдэнт Вацлаў Гавэл, прэзыдэнты Польшчы, Грузіі, Казахстану, прадстаўнікі ўраду Украіны, Расеі, а таксама лідэры апазыцыі ў Беларусі, Румыніі і Баўгарыі.

Трэба спадзявацца, што чытачы «Беларуса» ў ЗША таксама пададуць голас сваім кангрэсмэнам і сэнатарам, каб Беларуская сэкцыя ў Нью-Ёрку была захаваная.

## БЕЛАРУСКА-ПОЛЬСКАЯ ПЭРСПЭКТЫВА

Грунтоўна ўдакумэнтаваны артыкул амэрыканскага дасьледніка Стэфана Р. Бюранта пад заг. «Міжнародныя дачыненьні ў рэгіянальным кантэксьце: Польшча і ейныя ўсходнія суседзі — Летува, Беларусь, Украіна» апублікаваныя ў часапісе Europe/Asia Studies, Vol. 45, No. 3, 1993.

У выснове артыкулу аўтар піша, што хоць дачыненьні трох усходніх суседзяў з Польшчаю маюць мірны характар, абумоўлены часткава жаданьнем гэтых трох нованезалежных дзяржаваў далучыцца да эўрапейскае супольнасьці, тым ня менш канфлікты, кажа С. Бюрант, могуць узьнікнуць на нізавых пластах жыхарства ў выніку стэрэатыпаў мысьленьня або пад уплывам дэмагагічных лідэраў, якія могуць прыйсьці да ўлады. Адзін із спосабаў недапушчэньня да гэткага развароту падзеяў, на думку аўтара, — гэта апрацаваньне чатырохбаковай камісіяй гісторыкаў новых гістарычных падручнікаў, якія злагоджвалі-б антаганістычную рознасьць пагляду на мінуўшчыну. Заданьне гэта ня лёгкае, прызнае С. Бюрант, але трэба рабіць намаганьні, каб гісторыя канфліктаў не паўтарылася.

## АНТЫБЕЛАРУШЧЫНА Ў БЕЛАСТОКУ

На сустрэчы ў Варшаве зь Віцэ-міністрам культуры Міхалам Ягелам 28 верасьня сёлета сп. Ягела сказаў, што «Рэчпаспалітая будзе маці для ўсіх сваіх дзяцей, нягледзячы на тое, якой яны нацыянальнасьці». Але да такога мацярынства, як выглядае, яшчэ далёкая дарога. Бо паводле прадстаўніка Беларускага Грамадзка-Культурнага Таварыства Яна Сычэўскага, «некаторыя палітыкі сваімі выказваньнямі паглыбляюць толькі стан недаінфармаванасьці грамадзтва пра нацыянальныя меншасьці, што выклікае падазронасьць, а ў выніку гэтага — агрэсію, чаго доказам могуць быць антыбеларускія надпісы на сьценах будынку Таварыства ў Беластоку ці разьбітыя вокны. Старшыня БГКТ адмоўна ацаніў зьмест дакумэнтальных фільмаў пра беларусаў Беласточчыны, зробленых беларускім і польскім тэлебачаньнем.» (Паводле «Нівы» № 32, 17.X.93).

## *«ДЫСКУСІЯ — БЕЛАРУСКА-ПОЛЬСКІ ЧАСАПІС*

У Варшаве ў чэрвені сёлета выходзіць беларуска- і польскамоўны месячнік «Дыскусія». Рэдакцыя тлумачыць рацыю зьяўленьня новага пэрыёдыка: «Што пра беларусаў і пра Беларусь ведае сярэднестатыстычны паляк? Хіба нічога, калі не гаварыць пра некалькі цьмяных вобразаў з мастацкай літаратуры і некалькі даволі вострых вобразаў з беларускіх і варшаўскіх базараў».

Зь беларускіх аўтараў у першым нумары Сакрат Яновіч піша пра Ф. Скарыну, др. Ніна Баршчэўская — пра беларускую мову. Польскія аўтары займаюцца тэмамі польска-беларускіх дачыненьняў у міжваенным часе ды пытаньнямі сучасных эканамічных сувязяў.

Беларуска-польскі дыялёг варты падтрыманьня. Выдавец часапісу — таварыства «Мост» ("POMOST"). Адрас: 03-337 Warszawa, Wyszogrodzka 4, Poland.

## ФОНД БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАГА ПАРТНЭРСТВА

У ліпені сёлета ў Менску была ўтворана Супольная Камісія Гуманітарнай Дапамогі, старшынём якое стаўся амэрыканскі пастар Пол Мор. Запачаткаваны таксама Фонд Беларуска-Амэрыканскага Партнэрства з капіталам тры мільярды рублёў. Фонд будзе даваць пазыкі на праграмы, зьвязаныя з аказваньнем гуманітарнай дапамогі і разьвіцьцём. Фонд атрымаў ужо больш за 340 заяваў аб пазыках. Першыя 25 пазык (да 25 мільёнаў рублёў кожная) будуць прызнаныя на пачатку сьнежня сёлета.

# У ПОШУКАХ ЭМІГРАНЦКАЙ ЛІТАРАТУРЫ

*(Працяг. Пачатак у № 404 «Беларуса»)*

Нашыя далейшыя вандроўкі прадаўжаюцца. І гэтым разам пачалі бліжэй хаты — у Нью-Джэрзі.

У канцы ліпеня наведалі сп. Якуба ў Трэнтане. Ён у свой час шмат публікаваў і мы спадзяваліся знайсьці ў яго недастаючых нумароў «Літаратурна-Мастацкага Зборніка», «Беларускіх Быляў» ды іншых публікацыяў. Тоесёе знайшлі, асабліва некаторыя цікавыя адозвы і дакумэнты былога Беларускага Епіскапату.

Наступны, вельмі памысны візыт быў да а. Каўша у Саўт-Рывэр. Міхась Сенька наладзіў нам спатканьне, суправодзіў і дапамагаў нам разгледзець зборы шаноўнага айца. Знайшлі мы ў яго шмат цікавых рэчаў, перш-наперш нявідамую яшчэ для нас «Беларускую Зарніцу». Гэта аднаўленае на эміграцыі выданьне часопісу, які выходзіў у Вільні ў 20-х гадох, рэдагаваны бацькам а. Сьвятаслава, таксама сьвятаром. Акрамя гэтага пабачылі цэлы шэраг першых нумароў часопісаў, як «Беларускі Царкоўны Голас», што выходзіў у Цірсгайме, Ватэнштэцкі «Шляхам Жыцьця», «Інфармацыйны Бюлетэнь Галоўнага Штабу Беларускага Вызвольнага Руху», «Сьмех на здароўе» і іншыя. Гэта былі сапраўдныя знахадкі, бо звычайна першыя нумары вельмі рэдкія і, зразумела-ж, вельмі важныя як для бібліяграфічнага ўліку, гэтак і для камплектаваньня калекцыі.

На разьвітаньне яшчэ дамовіліся са сп. Сенькам, што незадоўга наведаем бібліятэку і архіў Беларускага Грамадзкага Цэнтру і Саўт-Рывэры.

Аднэй сыботы ў кастрычніку наведалі вельмі імпазантную бібліятэку Янкі Запрудніка і правялі там, як сам гаспадар зазначыў, цэлы працоўны дзень. Знайшлі ці мала патрэбных матар'ялаў. Дублікаты наш сябра ахвотна аддаваў, а зь некаторых недастаючых нумароў паабяцаў зрабіць адбіткі. Сваю бібліятэку Янка бэражэ, упарадкоўвае і камплектуе паводля сваіх патрабаваньняў для далейшых досьледаў.

Празь дзень, у панядзелак, былі ўжо ў бібліятэцы Беларускага Грамадзкага Цэнтру ў Саўт-Рывэры, якая знаходзіцца ў царкоўным будынку. Каля царквы чакалі нас ужо Міхась Сенька і Віталі Цярпіцкі. Яны ласкава дазволілі нам правесьці там цэлы «працоўны дзень», ды й самі працавалі з намі. Гэта быў сапраўды памысны пабыт, бо бібліятэка мае шмат дублікатаў і мы змаглі добра папоўніць нашыя зборы.

Вельмі цікавымі знахodкамі былі два першыя нумары часопісу "Bielaruski Student", які выходзіў у Бэрліне ў пачатку 40-х гадоў; першыя, магчыма й адзіныя, нумары «Апошніх Навінаў» і «Скаўцкі Лісток», што выходзілі ў Бакнангу; гумарыстычны часапіс "Pu-ha", № 2, якога якраз у нас ня было; і шмат, шмат іншых. Дзень праляцеў хутка і не хапіла яго. У Саўт-Рывэр давядзецца прыехаць яшчэ і разгледзець колькі прыватных архіваў.

У міжчасьсі мелі вельмі прадукцыйную перапіску і тэлефанічныя размовы зь Янкам і Івонкай Сурвіламі, якія знайшлі яшчэ ў сваёй калекцыі некаторыя вельмі важныя матар'ялы, сярод іх асабліва рэдкія бэрлінскія гумарыстычныя часопісы «Камар на Чужыне» ды "Kryvickaje Kamarania"

Самай важнай паездкай у гэтым сэзоне быў, аднак, Лёндан — зноў Лёндан. Там, у Скарынінцы, мы правялі вельмі інтэнсыўныя чатыры дні. Перш-наперш перагледзелі калекцыю эміграцкіх часопісаў і кніжак, зьверылі са сваімі сьпісамі, дадалі чаго не ставала, папоўнілі, што было няпоўнае. Зрабілі шмат адбіткаў, балазе, тут-жа на месцы і капіявальная машына.

Наведалі гэтаксама і сп. Аляксандра Лашука, які нам выдатна дапамог зь недастаючымі брытанскімі выданьнямі ды скантактаваў нас са сп. Ражанцом. Сп. Ражанец прынёс шмат матар'ялаў і паабяцаў знайсьці яшчэ больш.

Вельмі прыемнымі і плённымі былі дзьве візыты да мілых спадарства Янкі й Лёлі Міхалюкоў. Там мы і пагасьцілі з нашымі сымпатычнымі гаспадарамі й пакарысталіся зь іхных архіваў і часапісных збораў. Асабліва для нас важныя былі розныя выданьні ЗБВБ ды першы нумар рэдкага гумарыстычнага часопісу "Krapiwa", які выходзіў у гор. Лідс.

Назьбіралі ў Лёндане поўны стос і дублікатаў і адбіткаў і, што асабліва важна, усе апошнія рэлігійныя выданьні а. Надсона: пераклады ў беларускую мову службаў, дзіцячая Біблія ды іншая царкоўная літаратура. Усё гэта а. Надсон ласкава згадзіўся пераслаць поштай, бо надта-ж шмат было-б везьці з сабой.

Лёндан, Скарынінка і а. Надсон, дзякуем і да наступнай працоўнай сустрэчы!

**Зора Кіпель**

## ЮБІЛЕЙ АРСЕНЬНЕВАЙ У МЕНСКУ

З нагоды юбілею Натальлі Арсеньневай у Дзяржаўным музэі гісторыі беларускай літаратуры ў Менску адбыўся літаратурны вечар, на якім Ірына Багдановіч, паэтка і кандыдат філялягічных навук, гаварыла пра творчасьць юбіляркі; выступіў хор «Дабралад» з «Малітвай» Н. Арсеньневай-Равенскага; дыктар Гранько прачытала вершы паэткі.

(Паводле «Голасу Радзімы» № 43, 28.X.93)

## ПАДАРУНАК БЕЛАРУСКАМУ ПРАДСТАЎНІЦТВУ АД МАСТАЧКІ

Ведамая мастачка беларускага замежжа Тамара Стагановіч-Кольба (Ст. Тамара) передала 16 верасьня сёлета Пастаяннаму прадстаўніку Беларусі пры ААН Генадзю Бураўкіну свой дар — трыптых «І вясны ня спыніць, ня стрымаць». Тры маляўнічыя абразы прасякнутыя адчуваньнем непераможнасьці маладога жыцьця і рамантычнай радасьцю росквіту.

Шмат якія творы Ст. Тамары, што паказваліся на многіх выстаўках у музэях і галерэях ЗША, адзначаны прызамі і ўзнагародамі. Прозьвішча мастачкі занесена ў даведнікі «Хто ёсьць кім у амэрыканскім мастацтве» і «Хто ёсьць кім сярод амэрыканскіх жанчын».

Трыптыхам Ст. Тамары ўпрыгожана цяпер бібліятэка Беларускай місіі пры ААН.

## ПУБЛІКАЦЫЯ ЯНА ПЯТРОЎСКАГА

«УВАГА! УВАГА! — ГАВОРЫЦЬ...» — пад гэткім загалоўкам Ян Пятроўскі выдаў брашуру (32 ст.), у якой зьмешчаныя лісты да сп. Пятроўскага ад менскага літаратуразнаўца й паэта Леаніда Пранчака і адказы сп. Пранчаку сп. Пятроўскага (1989-90 гг.). Асноўны зьмест брашуры — адказы сп. Пятроўскага на шэсьць пытаньняў літаратуразнаўчае анкеты. Зь іх мы даведваемся, што сп. Пятроўскі, між іншымі выдавецкімі праектамі, апрацоўвае нямецка-беларускі слоўнік, які «мае налічваць да 1000 бачын».

# «БЕЛАРУСЬ НА ГІСТАРЫЧНЫМ СКРЫЖАВАНЬНІ»

Пад такім загалоўкам вышла кніга на ангельскай мове Янкі Запрудніка.




Шмат гадоў мы дамагаліся ад нашых гісторыкаў, грамадзкіх дзеячоў ды пісьменьнікаў выдаць кнігу на ангельскай мове зь інфармацыяй аб Беларусі. Колькі разоў да мяне зьвярталіся калегі па ўнівэрсытэце з просьбай даць ім матэрыялы аб Беларусі. Такога матэрыялу ня было за выняткам некалькіх брашураў, якія разглядалі пэўныя аспэкты беларускай дзяржаўнасьці, яе эканомікі ды палітычнай сытуацыі. Цяпер перада мною каштоўная кніжка, якую я магу даць, ды ўжо даў, людзям, зацікаўленым праблемамі былога Савецкага Саюзу і ў асаблівасьці праблемамі паасобных народаў, а ў тым ліку праблемай Беларусі.

Гэтая кніга вельмі вартасная таксама для нашай маладой генэрацыі, якая патрабуе матэрыялаў аб Беларусі на ангельскай мове, як мове іх навучаньня. Я пераконаны, што гэтая вартасная кніга дапаможа ім пазнаць свае карані, так як кніга амэрыканскага пісьменьніка Гэйлі сталася настольнай біблііяй кожнага амэрыканца афрыканскага паходжаньня.

Янка Запруднік вельмі коратка, але зьмястоўна ўводзіць тытача ў гісторыю Беларусі, характэрызуючы кожны пэрыяд: Полацкае княства, Вялікае Княства Літоўскае; вунія з Польшчай; Расейская акупацыя; пэрыяд БНР 1918-га году і падзел Беларусі; гісторыя БССР і пэрыяд савецкай акупацыі; лёс беларусаў пад польскай акупацыяй, з аднаго боку, ды трагедыя народу пад савецкай акупацыяй прадстаўлены выразна й абаснавана на гістарычных матэрыялах.

Часы перабудовы й далейшы ход падзеяў насьветлены бязь лішняга эмацыяналізму.

Янка Запруднік, як аўтар кнігі, робіць уражаньне аб'ектыўнага гледача на падзеі, і гэта якраз яшчэ больш пераконвае чытача. Ён прадставіў трагедыю беларускага народу, як ахвяры жудаснай русыфікацыі. З кнігі відаць цяжкасьці аўтара неяк вытлумачыць псыхалёгію нявольнікаў, як вынік жахлівага тэрору акупацыйных уладаў.

Стан эканомікі вельмі добра паказаны ды адначасна дадзеная доза аптымізму. Разьдзел аб прыродных багацьцях Беларусі выклікаў у мяне вельмі аптымістычны пагляд на лепшую будучыню Беларусі. Аўтар вельмі цьвяроза прадставіў цяжкасьці ў поступе прыватызацыі, але адначасна не абезнадзейвае чытача, і, на маю думку, дае пазытыўны прагноз для замежнага бізнэсмэна, зацікаўленага ў інвэстыцыях на Беларусі.

Вельмі цікавы агляд сучасных адносінаў з суседзямі. Роля царквы ды касьцёла дапаўняе вобраз на Беларусі.

На заканчэньне свае кнігі аўтар падкрэсьлівае глыбокі сэнс гуманнасьці беларускага народу, яго талерантнасьць. Ён цытуе Васіля Быкава, у творчасьці якога цэнтральная тэма — гэта захаваньне чалавекам гуманнасьці ў аблічы дзікіх абставінаў вайны.

Кніга Янкі Запрудніка павінна стацца настольнай кнігай кожнага беларуса, асабліва тых, хто пачаў трацiць веру ў лепшую будучыню Беларускага Народу.

**Б. Рагуля**

## ДАПАМОГА АД БАПЦ І СІТЫГОЎП АХВЯРАМ ЧАРНОБЫЛЯ

У канцы лістапада сёлета амэрыканская арганізацыя Сітыгоўп Інтэрнашнал завязе ў Беларусь, на Магілеўшчыну й Гомельшчыну, ад імя Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы кантэйнэр дзіцячай ежы і два кантэйнэры макаронных вырабаў — усё вартасьцяй больш за мільён даляраў.

Сп. Мікола Ганько з Таронта ў Канадзе будзе адным з удзельнікаў разьмеркавальнай групы, якая паедзе ў Беларусь. Паводле бюлетэню Сітыгоўп Інтэрнашэнал (CityTimes, Fall Edition 1993), гэтая дабрадзейная арганізацыя завезла на Беларусь мэдыкамэнтаў і мэдычных прэпаратаў на 35,2 мільёна даляраў ды на 30 мільёнаў даляраў дзіцячых харчоў.

## КАНЦЭРТ НА ДАПАМОГУ ЧАРНОБЫЛЬЦАМ

Узначальваная пастарам Полам Морам арганізацыя Сітыгоўп Інтэрнашэнал арганізуе ў гор. Нью-Ёрку калядны канцэрт, прыбытак зь якога пойдзе на дапамогу дзяцям, ахвярам чарнобыльскай радыяцыі ў Беларусі.

Канцэрт адбудзецца ў **чацьвер 16 сьнежня ў славутай залі Карнэгі** (Мангатэн, рог 57-й вул. і 7-й авэню) Пачатак канцэрту а 19:30.

Білеты можна заказваць па тэлефоне: (718) 299-8660 (KB Productions) або (914) 676-4400 (CitiHope International).

## ПРА ПОШУКІ КРЫЖА СЬВ. ЕЎФРАСІНЬНІ

Уплывовы каталіцкі тыднёвік The Tablet (6.XI.93) падаў у кароткім паведамленьні пра захад міністра замежных спраў Беларусі Пятра Краўчанкі перад Міжнароднай паліцыяй, каб яна памагла знайсьці крыж сьв. Еўфрасіньні Полацкай — «сымбаль беларускага адраджэньня».

## СПАД ПРЫРОСТУ ЖЫХАРСТВА

У Беларусі колькасьць народжаных у студзені-верасьні (1993 г.) скарацілася ў параўнаньні з тым-жа пэрыядам мінулага году на 6,6 тысячы чалавек, або на 7%. На адну тысячу насельніцтва рэспублікі прыпадала 11,6 народжаных супраць 12,5 у студзені-верасьні 1992 году. Колькасьць памёршых павялічылася на 9,8 тысячы чалавек, або на 11%, і склала 12,4 на адну тысячу насельніцтва супраць 11,1 у студзені-верасьні 1992 году.

«Колькасьць насельніцтва рэспублікі на 1 кастрычніка 1993 году склала 10,4 мільёна чалавек і павялічылася за 9 месяцаў бягучага году на 18 тысяч, або на 0,2%. (Дзяржкамстат РБ, «Звязда», 4.XI.93)

## ШКОЛА, НАД ЯКОЙ ЛУНАЕ БЕЛ-ЧЫРВОНА-БЕЛЫ СЬЦЯГ

«Мусіць, у нас адзіная са звычайных школаў у Мінску, над якой лунае бел-чырвона-белы сьцяг», — такімі словамі канчаўся ліст да мяне намесьніка дырэктара менскай школы № 131 Сяргея Зянькова, пра якую колькі разоў пісаў «Беларус». Грошы, якія беларусы замежжа дасылалі на мой адрас, дапамаглі настаўнікам шмат што зрабіць. Цытую зь ліста спадара Зянькова:

«Першыя 250 фунтаў пайшлі толькі на рамонт, таму што ў нас не было іншага выйсьця: дах цячэ, паркет дыба стаў, столі ў разводах. Пра што яшчэ думаць, калі на галаву льле. А цяпер ужо ў нас ёсьць эскізы па ўпрыгожаньню актавай залі, вестыбюля, першага паверха. Я ўжо купіў сьцягі, гербы. Калі скончым, запросім карэспандэнта з «Голаса Радзімы», каб былі фотаздымкі. А пакуль што дасылаю газэту «Добры вечар» за 11 кастрычніка з артыкулам пра нашу школу і дапамогу беларусаў сьвету. А яшчэ я купіў кнігі «Кароткая гісторыя Беларусі» Вацлава Ластоўскага для ўсіх выпускнікоў школы. Не зьдзіўлюся, калі даведаюся, што ў некаторых сем'ях, адкуль паходзяць вучні, гэта будзе першая кніжка на беларускай мове. Мушу наладзіць сапраўдныя калядкі ды раздаць кніжкі дзецям.

У мяне пайшло 10 фунтаў на ручкі і паперу для настаўнікаў, чым, дарэчы, прывёў іх у поўнае захапленьне (бо ў школе нічога няма, а самому купляць дорага). Гэта штодзённыя праблемы, якія, можа, з першага погляду здаюцца дробнымі.

Як зрасходаваць астатняе — думаем разам зь дзецьмі. У нас няма каляровага тэлевізара ў школе (ніводнага), патрэбны відэамагнітафон, музычны цэнтар, двухкасэтны магнітафон (прапанова дзяцей), дыяпраэктары, лінгвафоны для габінэту ангельскай мовы, фотаапарат. Нехта сьцягнуў тэлефон з настаўніцкай, а ён таксама патрэбны. Гэта ўсё аснова, безь якой цяжка, у першую чаргу дзецям, бо яны адчуваюць сваю 'чыжоўскую непаўнавартасьць'. Так што абярэм самае неабходнае, бо тыя ж тэлевізары цяпер каштуюць ад 700 тысячаў да 1,5 мільёна рублёў!»

Цешуся тым, што дзеці са звычайнай школы ў менскім рабочым раёне Чыжоўка адчуваюць праўдзівую апеку збоку беларусаў замежжа, тым больш, што гэта тычыцца не якога-небудзь элітнага ліцэя, дзе ня трэба пераконваць у неабходнасьці беларускай мовы на ўроках. Дзякуй усім, хто прыслаў грошы на мой адрас: агульная сума ў 750 ангельскіх фунтаў перадзена з рук у рукі па назначэньню. Усе дакумэнты па выдатках знаходзяцца ў мяне. Калі ласка, надрукуйце яшчэ раз прозьвішчы ўсіх, хто адкугнуўся на просьбу дапамагчы дзецям:

М. Баяроўскі (Ангельшчына, £20), С. Будкевіч (Анг. £20), Ф. Верамейка (Анг. £20), В. Еўдакімаў (Анг. £20), Я. Запруднік (ЗША, US$100 + £65), Хв. Кажаневіч (Анг. £1200), А. Лашук (Анг. £250), С. Нарушэвіч (Аў)стралія, £100), А. Тэлеш (ЗША, US$100 + £70), М. Швэдзюк (Анг. £50), а таксама Беларуская Харытатыўная Фундацыя ў Лёндане (£100).

**З пашанай**
**Джым Дынглі/Jim Dingley**
**Прафэсар Лёнданскага Ўнівэрсытэту**
**Віцэ-прэзыдэнт**
**Міжнароднай Асацыяцыі**
**Беларусістаў**
**Старшыня Англа-Беларускага**
**Таварыства**

## МІХАЛУ ЯКОВІНУ ПАТРЭБНА ІНВАЛІДНАЯ КАЛЯСКА



Міхалу Яковіну 40 год. Інвалід зь дзяцінства. Цяжкая хвароба зламку прыкавала яго да ложка. Мае сярэднюю асьвету. Піша першы. Паэзія для яго сталася сродкам выжываньня і жыцьцём. Жыве ў Менску. Друкаваўся толькі адзін раз — у 1982 годзе.

Міхалавы бацькі самі хворыя і мусяць даглядаць хворага да ДПЦ (дзіцячы цэрэбральны параліч).

Ёсьць сярод нас людзі шчодрыя і з добрым сэрцам, якія змаглі-б дапамагчы Міхасю. Адрас: 220002 Менск — 2, вул. Чарвякова, 6-63. Міхал Яковін. (тэл.: 34-04-72).

*З жыцьця ў Рычманд-Гіле, Н-Ё.*

## УШАНАВАНЬНЕ ПАМЯЦІ В. ЮРЦЭВІЧА

У нядзелю 31 кастрычніка адбылася ўспамінальная трапеза, прысьвечаная памяці Васіля Юрцэвіча (памёр 29.X.73), зладжаная сп-няй Кацярынай Юрцэвіч і сям'ёю, а да іх далучылася і царкоўная ўправа прыходу Сьв. Кірылы Тураўскага. Айцец Грэгоры адслужыў паніхіду. Было шмат людзей: сям'я, прыяцелі, вернікі царквы. Хоць мінула ўжо 20 год, але постаць Васіля Юрцэвіча паўстала сьвежай у тых, хто яго знаў. У часе трапезы сп. Кастусь Мерляк прачытаў біяграфію сьв. пам. В. Юрцэвіча, гаварыў аб яго ным укладзе ў жыцьцё беларускай эміграцыі, а галоўна ў пабудову нашае царквы ў Чырманд-Гіле. Васіль Шчэцька коратка ўспамінаў аб жыцьці сьв. пам. В. Юрцэвіча ў Нью-Ёрку ды яго рэлігійнай і грамадзкай дзейнасьці.

Сп-ня Хрыстына-Гоган дзякавала прысутным за ўдзел у гэтых успамінах аб ейным бацьку.

## УГОДКІ ПЕРШАЕ БАГАСЛУЖБЫ

У нядзелю 7 лістапада былі адзначаныя 21-я угодкі першае багаслужбы ў царкве Сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычманд-Гіле. Абедню служыў а. Грэгоры. Хорам, узмоцненым большай прысутнасьцю харыстых, кіраваў сп. С. Жамойда. У царкве было шмат людзей.

Пасьля літургіі адслужылі малебен удзячнасьці, а па ім у царкоўнай залі адбыўся прынагодны банкет, прыгатаваны нашымі прыхаджанкамі.

Сп. Кастусь Мерляк, старшыня царкоўне ўправы, вітаў прыхаджанаў і гасьцей. Бяседа была гаманлівая, свая. Айцец Грэгоры, як заўсёды, абыходзіў сталы, вітаўся з кожным, гаварыў аб надзённых справах, вёў гутаркі на рэлігійныя і сьвецкія тэмы.

**Васіль Шчэцька**

## ПЕРШАЯ Ў БЕЛАРУСІ ЖАНОЧАЯ ГІМНАЗІЯ

*У гор. Жодзіна заснаваная першая ў рэспубліцы жаночая гімназія, дырэктар якое сп. А. Несан і настаўніцкі калектыў змагаюцца за прысваеньне ёй сьвятога імя Еўфрасіньні Полацкай.*

*У звароце да братоў-беларусаў, прысланым у рэдакцыю «Беларуса», дырэктар А. А. Несан піша:*

У нашай гімназіі дзяўчынкі, апроч агульнаадукацыйных прадметаў, вывучаюць паглыблены курс замежнай мовы і камп'ютэры, этыкет і мэдыцыну, рукадзельле і кулінарыю, бальныя танцы і аэробіку, цырульнае мастацтва і макіяж, эканоміку і ваджэньне легкавых аўтамабіляў, справаводзтва і машынапіс. Апроч таго, у нашай гімназіі дзяўчынкі набываюць прафэсію: сакратар-рэфэрэнт зь веданьнем замежнай мовы і ўменьнем работы на камп'ютэры. ...

Пляны ў нас вялікія, на наш погляд, дабрародныя, але праблемаў яшчэ больш. Перш за ўсё — гэта праблема з памяшканьнем гімназіі. Заняткі мы праводзім цяпер у будынку былога рабочага клюбу з трыма толькі няўтульнымі пакоямі, дзе размяшчаюцца клясы. Частку гадзін займаемся ў суседняй школе, і дзяўчынкам даводзіцца пераходзіць з уроку на ўрок 500-мэтровую адлегласьць і ў няспрыльнае надвор'е.

Па нашай просьбе спонсары падрыхтавалі праект будынку гімназіі, але рэалізаваць гэты праект мы практычна ня можам з-за недахопу грошай. У праекце, на нашу радасьць, прадугледжана ўсё тое, што дапаможа пасьпяхова адрадзіць беларускую культуру і набыць свой нацыянальны твар, але гэта пакуль што застаецца толькі нашай марай.

Непакой за стан спраў, будучыню гімназіі, яе лёс і пасьпяховую работу прымусіў нас, паважаныя браты-беларусы, зьвярнуцца да Вас з просьбай аб дапамозе, бо як гаворыцца ў Бібліі: «Шукайце і знойдзеце! Ды аддасца вам за вашы добрыя справы!» Мы спадзяёмся, што сярод Вас знойдуцца дабрачынцы-суайчыньнікі, якія дапамогуць кволым, абаяльным, разумным і таленавітым даяўчынкам беларускай жаночай гімназіі.

У заключэньні сардэчна запрашаем Вас, шаноўныя сябры, да нас у госьці.

28 чэрвеня 1993 г.
Наш адрас:
Рэспубліка Беларусь 222160
г. Жодзіна Менскай вобл.
вул. 50 год Кастрычніка, д. 8-Б
Жаночая гімназія
Тэл.: 3-48-60 (дырэктар)
3-65-42 (настаўніцкая)

## ЭКСПАРТ МЕНШЫ, ІМПАРТ БОЛЬШЫ

«У студзені-верасьні бягучага году рэспубліка экспартавала тавараў на 525,9 мільёна даляраў, або на 26% менш, чым у студзені-верасьні мінулага году. У агульным аб'ёме экспарту на дою прадукцыі хімічнай прамысловасьці прыпадаў 31%, транспартных сродкаў — 11%, машын, абсталяваньня і мэханізмаў — 8%.

«Імпартавана тавараў на 555,7 мільёна даляраў. У параўнаньні з адпаведным пэрыядам мінулага году імпарт тавараў павялічыўся на 11.7%... У структуры імпарту доля машын, абсталяваньня і мэханізмаў складае 30%, прадуктаў расьліннага паходжаньня — 20%, прадукцыі харчовай прамысловасьці — 13%. (Дзяржкамстат РБ. «Звязда», 4.XI.93)

## BELARUSIAN REVIEW, Vol. 5, No. 3, Fall 1993

Багаты зьместам, восеньскі нумар англамоўнага «Беларускага Агляду» знаёміць чытача з прагрэсам амэрыканска-беларускіх дачыненьняў праз прызму візыту ў Вашынгтон Старшыні ВС РБ Ст. Шушкевіча і ліста Прэзыдэнта Клінтана рэдактару «БА» Джоў Прайсу у адказ на пасланую ў Белы Дом падзяку сп. Клінтану за сустрэчу зь беларускім лідэрам.

У грунтоўна апрацаваным артыкуле Джоў Прайс дае таксама чытачу палітычны партрэт Старшыні ВС РБ Ст. Шушкевіча, разгортае цэлую панараму пагляд аў беларускага лідэра на актуальныя пытаньні нутраной і замежнай палітыкі.

У нумары дадзены цікавы агляд юрыдычнай дапамогі Амэрыканскае Асацыяцыі Адвакатаў посткамуністычным дзяржавам Цэнтральна-ўсходняе Эўропы.

Сталы супрацоўнік часапісу Арт Турэвіч аналізуе ў нумары рэха ў Беларусі нядаўнага збройнага канфлікту ў Маскве.

У нумары зьмешчаны вельмі вартасны матар'ял — транскрыпт прэсканфэрэнцыі ў Менску 26 кастрычніка сёлета Дзяржаўнага Сакратара ЗША Ўорэна Крыстафэра і Старшыні ВС РБ Ст. Шушкевіча.

Інфарматыўны разьдзел часапісу, прысьвечаны пытаньням эканомікі й прыватызацыі.

Як заўсёды, «БА» памятае пра чарнобыльскую бяду Беларусі. Гэтым разам часапіс знаёміць з аналізам чарнобыльскай сытуацыі, зробленым ведамым канадзкім экспэртам др. Дэйвідам Марпэлсам, прафэсарам канадзкага ўнівэрсытэту ў правінцыі Альбэрта.

У часапісе зьмешчана інфармацыя пра 25-ты кангрэс БАЗА ў Нью-Брансьвіку.

Багаты разьдзел «Падзеі» з выказваньнямі беларускіх і амэрыканскіх газэт на актуальныя тэмы дня.

У нумары зьмешчаная рэцэнзія на кнігу др. Я. Запрудніка «Беларусь на гістарычным скрыжаваньні», а таксама азнаямленьне з досьледам др. Д. Марпэлса пад заг. «Беларусь — ілюзія стабільнасьці».

Артыкул Фэлікса Тышкевіч «Польшча — наш заходні сусед», напісаны па сьлядох нядаўнага наведаньня Беларусі, разглядае пытаньне польскае экспансіі на Беларусі, якая праводзіцца пад покрывам каталіцкае рэлігіі і тэндэнцыйнай інтэрпрэтацыі гісторыі польскамоўнай літаратуры на Беларусі.

Рэдакцыя «БА» зьвяртае ўвагу чытача на добры прыклад, які падала др. Ала Рамана: зрабіла падарунак свайму сэнатару, падпісаўшыся для яго на Belarusian Review. Сэнатар Альфонс Д'Амата, дастаўшы сьвежы нумар часапісу, прыслаў у рэдакцыю падзяку. Трэба думаць, што й іншыя чытачы гэтага вартаснага пэрыёдыку зробяць тое самае ў дачыненьні да сваіх кангрэсмэнаў і сэнатараў. «Беларускі Агляд» рэдагуецца й выдаецца на высокім прафэсійным узроўні. Гэта выдатная «візытная картачка» ўсіх беларускіх амэрыканцаў. «Беларускі Агляд» заслугоўвае на супрацоўніцтва, падтрымку і самае шырокае распаўсюджаньне.

Адрас: BELARUSIAN REVIEW, P.O. Box 10353, Torrance, CA 90505, U.S.A.

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД BELARUSIAN REVIEW

*Заміж кветак на магілу с.п. Лявона Вініцкага:*

| | |
|---|---|
| Я. Запруднік | ам. д. 100 |
| В. Кажан | 70 |
| В. і Г. Русак | 60 |
| М. і В. Сьнежка | 50 |
| А. Рамана | 40 |
| О. Яськевіч | 30 |
| Н. Кудасава | 25 |
| Н. Вайцяхоўская | 10 |
| К. Вайцяхоўскі | 10 |
| Т. і В. Будыла | 10 |
| Ч. і Ю. Найдзюк | 10 |

## СЬВ. † ПАМ. ЛЯВОН ВІНІЦКІ

**(29.III.1923 — 15.X.1993)**



Сьв. пам. Лявон Вініцкі нарадзіўся ў Нясьвіжы. Ягоны бацька, настаўнік па прафэсіі, быў заслужаным нацыянальным і культурна-асьветным дзеячом на Бацькаўшчыне і на эміграцыі. Маці Лявона, Бэнігна Вініцкая, выхоўвала дзяцей, дачку Лялю і сыноў Лявона й Ярaслава, у беларускім духу й культуры. Усе трое былі вучнямі Беларускай Настаўніцкай Сэмінарыі ў Нясьвіжы, у якой Лявон працаваў кароткі час і як настаўнік.

Сям'я Вініцкіх улетку 1944 году эвакуавалася ў Нямеччыну, дзе жыла ў лягерох для «перамешчаных асобаў» (ДП) і дзе бацька нябожчыка быў адным з актыўных сяброў Беларускага Нацыянальнага Камітэту.

У 1950-х гадох Вініцкія пераехалі ў Злучаныя Штаты, пасяліліся ў Каліфорніі, у Лёс-Анджэлесе. Там у лістападзе 1972 году памёр сьв. пам. Аляксей Вініцкі.

Лявон Вініцкі ў Амэрыку прыехаў пасьля заканчэньня ў 1954 г. Лювэнскага Ўнівэрсытэту ў Бэльгіі, дзе ён вучыўся на факультэце сацыяльных навук. У Бэльгію Лявон прыбыў у 1949 г. зь Нямеччыны, дзе працаваў у дырэкцыі УНРРА. У Лювэне думаў працягваць дэнтыстыку, але хутка пераключыўся на флямандзкі факультэт палітычных і сацыяльных навукаў. Браў удзел у грамадзкім жыцьці: пару разоў выбіраўся ва ўправу Беларускага Студэнцкага Згуртаваньня, быў сябрам управы Саюзу Беларусаў Бэльгіі (рэфэраэнт сацыяльных справаў). Дапамагаў беларускім работнікам, асабліва ў раёнах флямандзкай мовы. Сьпяваў у беларускім студэнцкім хоры, браў удзел у беларускім грамадзкім жыцьці.

Нябожчык быў сьціплым сьведамым беларусам, моцна прывязаным да бацькоў, глыбока адчуваў сыноўскія абавязкі.

Сябры й знаёмыя нябожчыка вельмі шкадуюць, што цяжкая хвароба перадчасна абарвала ягонае жыцьцё. Няхайжа будзе лёгкай яму амэрыканская зямелька і сьветлы ўспамін сярод былых вучняў Нясьвіжскае сэмінарыі ды Лювэнскага Ўнівэрсытэту. А ўсёй сям'і Лявона Вініцкага самыя шчырыя й глыбокія спачуваньні.

**Сябры**

**«БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ. Часапіс беларускага замежжа ў Амэрыцы», № 1, лістапад 1993**

У першым нумары гэтай новай публікацыі газэтнага фармату (8 ст.) зьмешчаныя перадрукі зь беларускіх айчынных газэт (на жаль, без зазначэньня крыніцы, наўсуперак агульнай практыцы ў падобных дайджэстах), зь беластоцкага беларуска-польскага "Czasopis"-у і аднаго матар'яду з амэрыканскай газэты. У нумары зьмешчаны таксама гумар, ілюстрацыі, картуны.

Выдавец-рэдактар М. Прускі ў звароце да чытачоў піша, што «Беларускае замежжа павінна дакладна ведаць, штó абдымаецца 'там' і 'тут' і абяцае «старацца інфармаваць аб усім, што, на нашу думку, можа цікавіць нашае замежжа».

Выдавец таксама піша: «Так, дапамога нам вельмі патрэбная як маральная, так і матэрыяльная».

Абвэдзьве формы дапамогі трэба накіроўваць на адрас: Belarusian Digest, 1086 Forest Hill SE, Grand Rapids, MI 49546, U.S.A. Tel.: (616) 942-0108.

### ВАШ ЛІСТ У БЕЛАРУСЬ МОГ АПЫНУЦЦА НА МАСКОЎСКІМ СЬМЕТНІКУ

Адзін з чытачоў «Беларуса» дастаў нядаўна ліст ад незнаёмца з Масквы, які працаваў шофэрам на грузавіку, вывозіў з гораду сьмецьцё. У сьмецьці гэтым ён бачыў шмат расьпячатаных канвэртаў з Амэрыкі, Аўстраліі і Нямеччыны, шмат паштовак з каляднымі й навагоднімі віншаваньнямі. Усё гэта — сьляды незаконнага расьпячатваньня замежнае пошты ў пошуках валюты з мэтай крадзяжы яе. Канвэрты, зразумела, выкідаюцца ў сьмецьцё.

Сумленны грузчык, наткнуўшыся на пусты канвэрт нашага суродзіча, жыхара штату Канэктыкэт, напісаў яму аб вандалізьме, які дзеецца на маскоўскім перасыльным пункце.

Рэдакцыя «Беларуса» мае асновы меркаваць, што найбольш шансаў дайсьці да адрасата ў лістоў, якія высылаюцца заказной поштай і, пажадана, з запатрабаваньнем паквітаваньня аб атрыманьні.

### *«БЕЛАРУСЬ ДАВЕДВАЕЦЦА, ШТО АДЛУЧЭНЬНЕ ДАЕЦЦА ЦЯЖКА»*

Пад гэткім загалоўкам лёнданская газэта Financial Times (12.X.93) зьмясьціла рэпартаж сваіх двух карэспандэнтаў, Мат'ю Камінскага і Антоні Робінсана, якія пішуць пра эканамічныя цяжкасьці Рэспублікі Беларусь, ейную запазычанасьць у Расеі, «слабую базу нацыяналізму», «непаслабны камуністычны кантроль ураду й эканамічных рэформаў», а таксама зьмілітарызаваную прамысловасьць і заражаную чарнобыльскай радыяцыяй тэрыторыю.

«Масавыя пратэсты, — піша газэта, — ніколі ня былі пашыранай зьявай палітычнага жыцьця Беларусі. Але занепакоенасьць, што эканамічныя цяжкасьці могуць піхнуць і Беларусь і Ўкраіну ў перабудаваную расейскую імпэрскую структуру, прысьпешылі справу заходняй дапамогі і ўзбудзілі занепакоенасьць заходніх плянавікоў».

## *«У НАС ТАК БЫЛО И ТАК БУДЕТ»*

Гэта так мяне прывітаў у Берасьці 27 чэрвеян 1993 г. а гадзіне 2-й раніцы п'яны начальнік таможнага аддзелу (мытні).

Ня ведаю, што за прычына — цягнік у Тэрэспалі стаяў аж дзьве гадзіны. Пры ўезьдзе на Беларусь зьявіўся афіцэр пагранічнае службы для кантролю пашпартоў. Я быў толькі адзін з брытанскім пашпартам, калі афіцэр праверыў мой пашпарт, а тады запытаў па-расейску: «А у вас виза есть?» Адказваю па-беларуску: «Няма». Афіцэр: «Плохо». Пытаюся: «Чаму нядобра? Візу-ж можна атрымаць тут пры ўезьдзе». Афіцэр: «Да, можно получить, но надо заплатить 60 долларов». Мой адказ: «Я прыгатаваны заплаціць колькі зажадаеце». Афіцэр: «А у вас ещё какие документы есть?» Адказваю: «Я ніякіх больш дакумэнтаў з сабою не важу; ня ведаю, якія дакумэнты вам больш патрэбныя». І далей кажу: «Прабачце, але я вельмі расчараваны. Я прыехаў у вольную незалежную Беларускую дзяржаву і ня чую беларускага слова». Афіцэру стала сорамна, бо, як аказалася, ён вельмі прыгожа гутарыў па-беларуску, і сам беларус.

Калі мы прыехалі на станцыю, афіцэр завёў мяне ў месца, дзе выдаюць візы. Гэта, па-просту, брудная будка, няма дзе выпаўніць анкету і ня было дзе схавацца ад дажджу.

Пасьля атрыманьня візы мне трэба было, каб мытны аддзел прылажыў пячатку на маёй дэкларацыі. Начальнік мытні загадаў свайму падуладнаму пералічыць мае грошы. Тады я ў адказ начальніку сказаў: «Я аб'ехаў паўсьвету, але з такім яшчэ ніздзе не спаткаўся». А ён мне: «У нас так было и так будет».

Мне было сорамна заўважыць пры ад'езьдзе зь Берасьця, што афіцэры пагранічнае службы хадзяць па пэроне з расшпіленымі мундзірамі, з рукамі ў кішэні, кураць, шапкі на палтыліцы або набакір. А некаторыя п'яныя. Такое штосьці пакідае вельмі дрэннае ўражаньне аб нашай Бацькаўшчыне-Беларусі.

**Хведар Кажаневіч**

### ВІЛЕНСКАЕ БЕЛАРУСКАЕ ЗГУРТАВАНЬНЕ ПАЛІТЫЧНЫХ ВЯЗЬНЯЎ

У другой палавіне сёлетняга году ў сталіцы Летувы было заснаванае Віленскае Беларускае Згуртаваньне Палітычных Вязьняў (ВБЗПВ). Сябры Згуртаваньня — былыя палітычныя вязьні бальшавіцкіх, а таксама польскіх і нямецкіх турмаў і лягероў: пэдагогі, аграномы, настаўнікі, інжынеры, а таксама былыя юнакі Саюзу Беларускай Моладзі, якім у мамэнт арышту было па 16-17 гадоў. Сябры ВБЗПВ спадзяюцца на падтрымку з боку замежных суродзічаў. Дапамога патрэбная для выданьня ўспамінаў і дакумэнтаў аб лягерным мінулым — каб засталася памяць аб беларускіх пакутніках.

### *ЦІ БУДУЦЬ НА БЕЛАРУСІ ВЫБАРЫ?*

На Беларусі ўсе гавораць пра выбары новага Вярхоўнага Савету і шмат хто рыхтуецца да гэтага. У кастрычніку сёлета было ўтворанае аб'яднаньне дэмакратычных сілаў «Вясна-94», у якое ўвайшлі розныя партыі, згуртаваньні, арганізацыі, групы й прыватныя асобы.

З другога боку, палкоўнік Сяргей Гайдукевіч, лідэр г. зв. Беларускага Народнага Руху, у які ўвайшлі 19 прокамуністычных і прарасейскіх партыяў і арганізацыяў, сказаў газэце «Рэспубліка» (4.XI): калі хто-небудзь думае, што выбары адбудуцца ўвесну наступнага году, дык той «моцна памыляецца». «Я думаю, — сказаў Гайдукевіч, — што Вярхоўны Савет не захоча «марнаваць мільярды рублёў» у часе, калі рэспубліка перажывае эканамічны крызіс. (FBIS, 18.XI.93)

### СЬП. ПАМ. СЯРГЕЙ КАРНІЛОВІЧ

Менск, 31 кастрычніка 1993 г.

Сумная вестка прыйшла ў Беларусь напярэдадні Дзядоў. Нас пакінуў Сяргей Карніловіч — сумленны, спагадлівы, працавіты чалавек, глыбока адданы беларускай ідэі. Ягоная ахвярная праца на карысьць адраджэньня Бацькаўшчыны зазначылася гэткімі значнымі ўчынкамі, як стварэньне цэнтру «Полацак», як арганізацыя й дастава дапамогі беларускім дзецям, пацярпелым ад Чарнобыля, і шматлікімі іншымі добрымі справамі. Кіраўніцтва, Сакратарыят і Ўправа Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне" глыбока смуткуюць з прачыны сьмерці сьв. пам. Сяргея Карніловіча і шчыра спачуваюць родным, блізкім, сябрам нябожчыка.

Хай будзе Яму зямля пухам!

**Ад імя кіраўніцтва, Сакратарыяту,**
**Управы БНФ "Адраджэньне" —**
**Валянцін Голубеў**
**Валянціна Трыгубовіч**
**Вінцук Вячорка**

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БЕЛАРУСА»

*Ад нашага прадстаўніка сп. Б. Даніловіча падпіска й ахвяры:*

| | |
|---|---|
| А. Субота | ам. дал. 100 |
| Л. Стагановіч | 100 |
| Б. Даніловіч | 50 |
| Р. Галяк | 50 |
| П. Кулеш | 40 |
| П. Алексы | 30 |
| Ю. Азарка | 25 |
| а. Я. Мол | 25 |
| В. Артон | 25 |
| Л. Грант | 25 |
| Р. Жук-Грышкевіч | 25 |
| В. Касьцюкевіч | 25 |
| Г. Арцюшэнка | 25 |
| Т. Кольба | 25 |
| П. Нядзьвецкі | 25 |
| А. Шастак | 25 |
| Б. Рагуля | 25 |
| З. Балкоўская | 25 |
| З продажу | 5 |
| | 670 |

*Прыслалі беспасярэдня ў Рэдакцыю:*

Заміж кветак на магілу с.п. Лявона Вініцкага:

| | |
|---|---|
| Н. Кудасава | 50 |
| Я. Запруднік | 50 |
| К. Стасевіо | 30 |
| З. і В. Кіпель | 25 |
| Б. і В. Стус | 25 |
| К. Стус-Сэрдэр | 20 |
| П. і М. Белы | 20 |
| К. Вайцяхоўскі | 15 |
| Т. і В. Будыла | 15 |
| Г. Бугай | 15 |
| Н. Вайцяхоўская | 10 |

*Заміж кветак на магілу с.п. С. Карніловіча:*

| | |
|---|---|
| В. і З. Кіпель | 100 |
| Я. Запруднік | 100 |
| А. Лашук | 28 |

*Сабраныя заміж кветак на магілу с.п. С. Карніловіча Беларускім Каардынацыйным Камітэтам у Чыкага:*

| | |
|---|---|
| В. і В. Рамук | 50 |
| А. Занковіч | 50 |
| М. Кучура | 20 |
| І. Пануцэвіч | 20 |
| А. і Л. Беленіс | 20 |
| В. Махнач | 10 |
| Н. Мароз | 10 |
| М. Махнач | 5 |
| Н. Жызьнеўскі | 5 |
| В. Мазура | 5 |
| А. Чарнэцкая | 5 |

*Заміж кветак на магілу с.п. Лёліку Вініцкаму:*

| | |
|---|---|
| К. Стасевіч | 30 |
| Б. і В. Стус | 25 |
| В. і З. Кіпель | 25 |
| Я. Запруднік | 25 |
| К. Шэлест-Сэрдэр | 20 |
| П. і М. Белы | 20 |
| К. Вайцяхоўскі | 15 |
| Г. Бугай | 15 |
| Т. і В. Будыла | 15 |
| Н. Вайцяхоўская | 10 |